PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 51 (1962) ГОД XXXVIII | БЕЛАСТОК 19 СНЕЖНЯ 1993 г. | ЦАНА 3000 зл.

## ФАТУМ

Усё гэта здарылася ў адной з беластоцкіх пушчанскіх гмінаў. На галлі бярозы, што стаяла на ўзлеску, павесіўся пажылы ўжо мужчына. Называлі яго Ігнасём. Пакончыў з жыццём на сваёй уласнай „каленіі", тут быў ягоны зямельны надзел. Не ўдалося мне нічога больш даведацца пра гэтага чалавека. Што піхнула яго на самагубства, астанецца гэта ягонай тайнай. А ўсё ж такі, несумненна, была прычына, нейкая невыносная крыўда, нейкая бязвыхадная жыццёвая сітуацыя, якоесьці мучэнне душы... Даўнавата гэта было.

Ды вось жылі: сын Ігнася, які ажаніўся з Ганнай ды мелі сына Алеся. Жылі тут жа за царкоўнай агароджай. Сын Ігнася бачыў, як год за годам пакрысе разбураўся помнік з чырвонай цэглы, які стаў узбоч храма. Тады ўжо не было на ім крыжа. Пра помнік было вядома, што пабудаваў яго даўным-даўно колішні царкоўны настаяцель. Тут была пахавана яго шматгадовая служанка. Згаданая сям'я гэты помнік разабрала. Цэгла ёй спатрэбілася на пабудову печы ў сваёй хаце. Дарэчы, хата тая стаіць.

Калі ўжо печ была гатова, разбуральнікам помніка ў адну і тую самую ноч прысніўся сон. Злавесны сон. Быццам бы ў іх дом прыйшла бацюшкава служанка (памерла яна дзеўкай) і сказала: „Чаму вы мяне так пакрыўдзілі? Вы ж свядома збурылі мой дом. За свой учынак будзеце пакараны: не памрэце натуральнай смерцю! Памятаеце Ігнася? І вам за ім дарога. Запомніце мае словы!" І з'ява-здань расплылася імглой.

Вядома, сон-прывід. Пра яго мала-памалу забылі. Але ж... той злавесны сон спраўдзіўся! Раніцай зайшла Ганна ў стадолу, а тут муж яе павесіўся. Дзіўна ўсё ж... Ні сваркі, ні непаразуменняў не было паміж імі. Сям'я затаіла факт самагубства і заявіла, што ўначы іх бацька раптоўна памёр. Нябожчыка пахавалі. З бацюшкам праводзілі яго ў апошнюю дарогу.

Сын Алесь займаўся на 18-гектарнай гаспадарцы. Задумаў жаніцца. Знайшоў працавітую, старанную дзяўчыну Антаніну. Добрая яна была для мужа. Ветлівая, даверлівая для людзей. Пачалі гадаваць многа кароў ды іншай хатняй жывёлы. Купілі трактар. Паставілі мураваны прасторны дом. Алеся выбралі солтысам. Усё было б добра, але муж, бывала, за гарэлкай свету не бачыў. Жонка папракала ды прасіла-маліла: „Пакінь гэту атруту! Да чаго ж яна цябе давядзе?!" А ён заўпарціўся, піў. Вядома, калі вяртаўся п'яны, не даваў спакою жонцы і дзецям, выганяў іх. Уцякала з дому жонка, хавалася то за вёскай, то ў полі, то ў кустоўі над ракою. Калі „гаспадар" заснуў, забірала дзетак, карміла, клала спаць. Працавала як той конь. Ды і крыўды пакрысе забываліся.



*Цягнула яго, клікала тая высь, тое неба і супакою не давала...*

Угаварылі неяк разам з цешчай Алеся ды паехалі з ім да лекара ў далёкі горад. Шукалі ў яго паратунку. Крышку было нібы лепш. Алесь быццам адумаўся. Але ненадоўга. Цягнула курыць, цягнула выпіць. Стаў больш нервовым. Курыў, хаваючыся ад жонкі. Нават пасярод ночы выходзіў на кухню, каб хаця раз-другі зацягнуцца папяросным дымам. А то шукаў у пасуднай шафе, мо дзе схавалі ад яго „паўлітэрку".

У працы хутка стамляўся. Находзілі, нахлыналі на яго нейкія трывожныя прадчуванні, страх. Уяўляў сабе, што калі толькі едзе на трактары, дык тут жа за ім гоніцца паліцыя. Насцярожвалі гэтыя ягоныя паводзіны жонку Антаніну. Сама часцей сядала за руль. Супакойвала мужа, калі той неспакойна і нервова паглядаў назад, ці за імі не едуць паліцэйскія ў мундзірах, ці яны не сочаць за ім.

☞ *Працяг на стар. 10*

## „ТАТА І МАМА — БЕЛАРУСЫ"

**У гайнаўскай пачатковай школе н-р 1 усяго 1417 вучняў; 44 вучыцца беларускай мове, а праваслаўнай рэлігіі — недзе 56%. Ганна Кандрацюк размаўляе з ВОЛЬГАЙ САЎЧЫНСКАЙ — дырэктарам школы і яе намеснікам — ІРЭНАЙ КУЛАЧЭЎСКАЙ.**

*— Чаму так мала вучняў ходзіць на беларускую мову?*

**ВОЛЬГА САЎЧЫНСКАЯ**: — Ну, як гэта тлумачыць? Гэтая, беларуская мова, у нас — непапулярная. А па-другое — бацькі не маюць такога жадання. Можа калі са школы выйдзе руская мова, тады ў нас, у Гайнаўцы, будуць вучыцца беларускай мове. Бо да гэтай пары нашыя вучні паступалі ў беларускі ліцэй на базе рускай мовы. І не было патрэбы навучання беларускай мовы. У гэтай хвіліне ўжо ёсць зацікаўленне, але яшчэ яно вельмі слабое.

*— У вашай школе была добрая перспектыва для беларускай мовы. У навучальным годзе 1989/90, у другіх класах назбіралася звыш 40 вучняў. Калі б на працягу 7 гадоў кантынуаваць такі набор і ўтрымаць гэты лік дзяцей, было б з 300 вучняў. Аднак навучанне абрываецца ў пятым класе.*

**ВОЛЬГА САЎЧЫНСКАЯ**: — Так. Я тут скажу, што мы, як школа, аб гэтым гаворым. Настаўнікі беларускай мовы, а асабліва пані Грыгарук, сапраўды ў гэтым годзе націскала. Але хачу толькі сказаць, што ў другім класе дзеці з энтузіязмам ідуць на беларускую мову, у трэцім яшчэ вучацца, але калі даходзяць да чацвёртага класа, пачынаецца навучанне на змены. І тады дзеці не хочуць вучыцца, бо на заняткі трэба прыходзіць нават вечарам. У даны момант маем 2 групы ў II класе, 2 групы ў III класе і адну ў IV (4 вучні). Гэтага чацвёртага класа не можам далучыць ні да трэцяга, ні да другога.

*— Ці бацькі-беларусы не пратэстуюць?*

**ВОЛЬГА САЎЧЫНСКАЯ**: — Мы стварылі навучанне ў IV класе толькі з чатырох вучняў, бо такое было жаданне бацькоў. І ў гэтым класе 2 вучняў вучыцца на ўзроўні IV класа, а 2 на ўзроўні V-га *(намеснік здзіўляецца і пані дырэктар паясняе:* „no ten co skargę pisał — no kto u nas taki" *і падае прозвішча).*

*— Такі бацька — гэта ў вас незвычайная з'ява?*

**ВОЛЬГА САЎЧЫНСКАЯ**: — Не, чаму я гавару аб ім, бо ведаю, што ён прыходзіў на пачатку навучальнага года і гаварыў з паняй Грыгарук, а яна, як класны кіраўнік IV класа, зрабіла агітацыю і знайшла чатырох вучняў, і мы наладзілі навучанне.

*— Пасля месяца ад пачатку навучальнага года...*

**ВОЛЬГА САЎЧЫНСКАЯ**: — Толькі ў чацвёртым класе, бо быў толькі адзін вучань; не можна было яго далучыць да трэцяга класа, бо яму не падыходзіў бы план урокаў.

☞ *Працяг на стар. 5*

## QUO VADIS, БЕЛАРУСЬ!?

Першая дэкада лістапада ў Рэспубліцы Беларусь прайшла пад знакам важкіх падзеяў, разнастайных у сваім змесце і ідэалогіі.

1 і 2 лістапада — выхадныя дні. У грамадскасці яшчэ не ўспрымаюцца яны святочнымі, днямі вялікай павагі да продкаў — а асабліва на гэтай зямлі, адкуль і пайшоў культ „дзядоў". Памаленьку прыжываецца адвечная традыцыя.

Беларусь толькі што становіцца суверэннай дзяржавай, але як заўсёды разрываецца яна паміж Усходам і Захадам. Няма самастойнай канцэпцыі на выжыванне нацыі і будучыню дзяржаўнасці. Паявіліся лістоўкі падпісаныя Управай БНФ „Адраджэньне", якія заклікалі да падтрымкі апазіцыі 9 лістапада — у дзень адкрыцця XIII Сесіі Вярхоўнага Савета. „Дзеля дабра Беларусі, дзеля будучыні кожнага з нас ён (Вярхоўны Савет — Л. Г.) павінен прыняць толькі тры рашэнні: 1. Урад Кебіча — у адстаўку, 2. Стварыць пераходны некамуністычны ўрад, 3. Новыя выбары — увесну 1994 года" — пісалася ў іх. Іншыя лістоўкі (чырвоным шрыфтам, на рускай мове) усхвалялі мінулае: „Сердечно поздравляем Вас с 76-й годовщиной Великой Октябрьской Социалистической революции" і запрашалі на мітынг 7 „ноября". Падпісаліся пад імі м. інш. дэпутаты — коммунисты, минский горком ПКБ. Дзве зусім супярэчлівыя ініцыятывы, першая за будучыню, другая за „перамогу кастрычніка". У адказ на першую Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь 5 лістапада падаў заяву „Да грамадзян Рэспублікі Беларусь". Называў у ёй управу БНФ авантурыстамі і правакатарамі.

Усё гэта адбывалася напярэдадні свята Вялікага Кастрычніка. Праўда, многія сумуюць па „акцябрскіх", не таму, што ідэйна з імі былі звязаныя, толькі таму, што былі выхадныя дні, можна было адпачыць. На гэты раз 7 лістапада — якраз у нядзелю. Надвор'е не заахвочвала да выхаду на вуліцу. Аднак на плошчы Незалежнасці (чытай: Леніна) сабралася чатыры-пяць тысяч людзей з чырвонымі сцягамі, савецкімі сімваламі і лозунгамі, каб прынесці кветкі „великому Вождю Революции", а пасля прайсці ў парк Горкага на мітынг. Гучалі там прамовы за аднаўленне Савецкага Саюза, нехта ў парку сарваў „Пагоню",

☞ *Працяг на стар. 4*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Przeważająca większośc kobiet nie jest wcale zainteresowana hasłami równouprawnienia. Mieszają się w nich wpojone przez matki zasady z realiami dnia codziennego. Matka zazwyczaj bardziej niż ojciec poświęca się dla dobra rodziny. Tym czasem owa rodzina często wcale nie chce owego poświęcenia. Dorosłe dzieci nie mają ochoty wysłuchiwać matki, która często powtarza o swoim poświęceniu. Mężowie najczęściej także nie życzą żadnych poświęceń bo to zobowiązuje, a nikt nie lubi mieć nieustannych zobowiązań. Kobiety poświęcają się na własne życzenie, nikt od nich tego nie potrzebuje.*

*(Rzeczpospolita, nr 280)*

**Ужо ў сярэдневяковай эпосе заўважылі, што жанчыны больш ахвярна дзейнічаюць у карысць кожнай ідэі, якую найчасцей прыдумалі мужчыны. У XIV стагоддзі папа рымскі катэгарычна забараніў жанчынам удзельнічаць у рэлігійных групах самабічавальнікаў, парушаючы ўперышню прынцып раўнапраўя да мазахізму.**

* * *

*Polska silna i bogata leży wyłącznie w naszym polskim interesie. Takiej Polski nie chce nawet Zachód, ponieważ boi się, że upojeni siłą i bezkarnością możemy wciągnąć Europę w jakąś awanturę z sąsiadami. Na pewno zaś odżyją wówczas w Polsce megalomańskie sny o międzymorzu, o tolerancji, o jakiejś nowej misji cywilizacyjno-religijnej na bezbożnym Wschodzie, czego przedsmak daliśmy odczuć Białorusinom już teraz, wysyłając tam księży katolickich.*

*(Polityka, nr 48)*

**Асабліва бязбожнікам ксяндзоўская цывілізацыя павінна быць вельмі атракцыйнай.**

* * *

*70 proc. uczniów szkół średnich miało kontakt z alkoholem, a połowa z nich spożywa go regularnie — co najmniej raz w tygodniu.*

*(Gazeta Współczesna, nr 231)*

**Моладзь заўсёды вучылі, што найважнейшай ёсць традыцыя. П'юць — значыць, узорныя вучні.**

* * *

*Rosja była, jest i będzie mocarstwem. Rosja nie może sobie pozwolić na opuszczenie tych rejonów, które przez całe wieki znajdowały się w jej strefie wpływów —* сказаў міністр замежных спраў Расіі Андрэй Козыр'еў.

*(Rzeczpospolita, nr 472)*

Беласток таксама добра можа быць у Прывислинском, як і ў Северо-Западном краі.

* * *

***„Белагразамежгандаль" гандлюе, як выявіла кантрольная палата, зусім дзіўна, вывозіцца: у Польшчу шпагат па долару за кілаграм і тут жа па цане амаль удвая большай, увозіцца такі ж; вывозяцца буракі па 45 долараў за тону, а ўвозяцца марынаваныя па 377 долараў; вывозяцца таматы ў Польшчу па 600 долараў за тону, а вяртаецца паста па 1300 долараў за тону. У гэтым аб'яднанні толькі прамыя страты складаюць 2,4 мільёна долараў —*** **сказаў прэзідэнт Беларусі Станіслаў Шушкевіч.**

***(Народная газета, н-р 222)***

**Спадар прэзідэнт непатрэбна здзіўляецца. Мафійная эканоміка кіруецца зусім іншай логікай. У рэчаіснасці гэтая фірма ніякіх стратаў не мае. За ўсё заплаціць беларускі народ, гэта яго абакрадаюць на ўсялякія спосабы.**

* * *

*Mamy rząd jaki mamy, idzie o to, by działał z jak największą korzyścią dla kraju i ludzi. Błyskawicznie pojął to kościół. Nie rozdziera szat, nie potępia postkomunistów, a chce widzieć w PSL ludową partię chrześcijańską, tworzącą ostoję polskiego katolicyzmu... Jan Paweł II wskazuje na niezaprzeczalne walory, które tkwiły w socjalizmie.*

*(Polityka, nr 46)*

Перамога дэмакратыі і лібералізму была б канцом Польшчы. Сацыялізм або фундаменталізм, о, гэта ўсё о'кей!

* * *

*Białoruskie Towarzystwo Kulturalne nadal istnieje.*

*(Polityka, nr 45)*

* * *

*Jeżeli rewolucja rosyjska szybko przybrała formę rządów monopartyjnych, to stało się tak dlatego, że ludy stepowe, obciążone koczowniczymi atawizmami, dużo łatwiej poddają się dążeniom jednoczącym, niż ludy osiadłe zamieszkujące różnorodne pod względem krajobrazu półwyspy.*

*(Najwyższy Czas, nr 46)*

Coś się tym razem popieprzyło towarzyszowi Korwin-Mikke. **Немцы і італьянцы не былі ж стэпавымі народамі.**

* * *

***Палякі злачыннай называюць умову Рыбентроп-Молатаў, але тыя ж самыя людзі не згадваюць пра Рыжскі дагавор, калі паверсальскае польскае „мацарства" падало руку тым-жа бальшавіцкім маскалям у 1921 г., каб падзяліць дзве новапаўсталыя дзяржавы — Беларусь і Украіну.***

***(Зважай, н-р 3, Часопіс Беларускіх Вайскоўцаў, Таронта — Канада)***

* * *

*Sporo emocji wywołuje na Słowacji temat ubóstwa polskich dzieci. (...) Pisze się tam, że polskie matki muszą sprzedawać swoje dzieci, aby nie umrzeć z głodu. Z powodu braku seksualnego wychowania 10 proc. polskich matek jest w wieku 15 lat.*

*(Rzeczpospolita, nr 266)*

Польшча ў славацкай прэсе выглядае больш-менш так, як у польскай Беларусь. Свае хваробы ўсходнееўрапейскія народы лечаць у аднолькавы спосаб — гавораць і пішуць, што ў суседзяў жывецца яшчэ горш.

## З мінулага тыдня

**Міністр замежных спраў Расеі Андрэй Козыр'еў** выказаў словы задавальнення з прычыны рашэння шэфаў дыпламатыі краін НАТО не прымаць новых дзяржаў у сваю структуру. Парыжская газета „Le Monde" напісала: „... Захад, паралізаваны страхам за няпэўную будучыню дэмакратыі ў Расеі не патрапіць супрацьставіць ёй яснай стратэгіі... Ці заходнія ўрады 10 студзеня на сустрэчы ў вярхах НАТО яшчэ раз уступяць гуморам спадароў Ельцына і Козыр'ева так, быццам бы яны былі заложнікамі цвёрдага крыла арміі?"

**На старонках газеты „Известия"** міністр замежных спраў Польшчы **Анджэй Аляхоўскі** напісаў, што „Польшча чакае ад расейскіх дэмакратаў стрымання ўсіх дэкларацый аб суверэнітэце нашай краіны і іншых дзяржаў рэгіёна, аб адрачэнні ад палітыкі дыктата, буферных зонаў і выканання іх без адступленняў і двухсэнсавых інтэрпрэтацый". Міністр дадаў таксама, што „бяспечнасць Польшчы і Еўропы не будзе трывалай, калі сістэма бяспекі не абыме Расеі і іншых усходніх суседзяў".

**У Аўстрыі** здарылася серыя ліставых бомбавых замахаў. Паўсюдна мяркуецца, што тэрарысты выводзяцца з правых фашысцкіх груповак, паколькі лісты з узрывучаткай дасылаюцца асобам, якія актыўна ангажуюцца ў абарону правоў чужаземцаў. Падчас адкрывання лістапасткі была паранена, між іншым, журналістка рэдакцыі нацыянальных меншасцяў аўстрыйскага тэлебачання.

Пасля амаль трохгадовага перапынку **аднавіў дзейнасць Менскі страйкавы камітэт**, у якім згуртаваны 16 самых вялікіх прамысловых прадпрыемстваў беларускай сталіцы. Старшыня страйкама **Генадзь Быкаў** склікаў на 11 снежня г.г. кансультатыўны сход прафсаюзных дзеячоў з усёй Беларусі. Удзельнікі сходу абмяркоўвалі справу актывізацыі прафсаюзаў у сувязі з цяперашняй палітычнай сітуацыяй у краіне, і падрыхтоўку да забастоўкі. Галоўныя пастулаты прафсаюзаў — гаспадарчыя рэформы, адстаўка цяперашняга ўрада, назначэнне датэрміновых выбараў.

**Гарадскі савет Саюза ветэранаў вайны, працы і арміі ў Лідзе** вырашыў у будучым годзе, у 50 гадавіну заканчэння II сусветнай вайны, узвесці **абеліск у гонар ахвяраў Арміі Краёвай**. На абеліску будуць высечаны прозвішчы загінуўшых. Лідскія ветэраны сваё рашэнне абгрунтавалі тым, што апошнім часам у Заходняй Беларусі ўвекавечваюць памяць загінуўшых жаўнераў АК. На думку дзеячоў лідскага Саюза ветэранаў ушанаванне належыцца і „дзесяткам нявінных жыхароў Панямоння — юнакоў, старцаў, бярэменных жанчын — якія загінулі з рук АКаўцаў падчас і ўжо пасля гітлераўскай акупацыі".

Адкрываючы **кантрольна-прапускны пункт Полаўцы—Пяшчатка** Беластоцкі ваявода **Станіслаў Пруціс** сказаў: „Адкрываем надта скромны, але вельмі патрэбны пераход. Няхай ён добра служыць нашым грамадзянам і спрые кантактам паміж нашымі дзяржавамі". Ва ўрачыстасці ўдзельнічалі таксама намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама **Леанід Лемяшэўскі**, прадстаўнікі пагранічных і мытных службаў Польшчы і Беларусі, праваслаўныя і каталіцкія духоўныя. КПП у Полаўцах працуе кругласутачна, а карыстацца ім могуць толькі на легкавых машынах грамадзяне Польшчы і Беларусі.

**Варшаўскае аддзяленне тэлебачання** плануе стварыць свой філіял у Беластоку. 24 снежня а 18 гадз. па II праграме будзе можна паглядзець пятнаццацімінутную праграму беластоцкага тэлебачання, якое называецца „Telewizyjny Kurier Kresowy". У планах, паводле заявы рэдактара **Пётра Гарбарчыка**, прадугледжаны **перадачы для нацыянальных меншасцяў**.

**З канцом лістапада здадзена ў карыстанне адноўлены мост даўжынёю ў 300 метраў, які знаходзіцца на рацэ Буг каля вёскі Турна-Малая, на шашы з Беластока ў Люблін. Рамонт працягваўся 8 месяцаў і быў зроблены спецыялізаванымі будаўнічымі прадпрыемствамі з Беластока, Сямяціч і Варшавы.**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Рэферэндум у Трасцянцы.
- Рэпартажы з Пасынкаў, Кленік і Катлоўкі.
- Як дзядзька Захар перажыў лістападаўскія халады.
- Манастыры Усходняй Еўропы.

# НЕ ПАВІННА БЫЦЬ ГОРШ

Неяк ужо сталася традыцыяй апошніх гадоў, што кожны новы міністр культуры, калі пачынае выконваць свае абавязкі, арганізуе сустрэчу з прадстаўнікамі нацыянальных меншасцяў. У гэтым годзе на такую сустрэчу, арганізаваную міністрам Казімежам Дэймкам прыехаў таксама кіраўнік Управы Рады Міністраў Міхал Стронк і шэф сеймавай Камісіі па справах нацыянальных меншасцяў Яцэк Курань.

Адкрываючы сход віцэ-міністр культуры Міхал Ягела паінфармаваў прысутных, што палітыка ўрада ў адносінах да нацыянальных меншасцяў не будзе мяняцца. Дзяржава мусіць стварыць аднолькавыя шанцы развіцця культуры ўсім сваім грамадзянам. У ніякім выпадку нацыянальныя меншасці не будуць палітычнымі заложнікамі. Не будзе таксама персанальных зменаў сярод асоб адказных ва ўрадзе за нацыянальную палітыку ў Польшчы. Надалей яе галоўнымі архітэктарамі будуць віцэміністр Міхал Ягела і дырэктар Бюро па справах нацыянальных меншасцяў Багуміла Бэрдыхоўская. Дарэчы, яны, як працаўнікі міністэрства, атрымалі столькі пахвалаў, ад г.зв. „нацменаў", што міністр Стронк пракаментаваў гэты факт словамі: „Pierwszy raz zdarza mi się słyszeć, że ktoś chwali urzędników państwowych". Гэтая сустрэча адрознівалася ад папярэдніх атмасферай сярод яе ўдзельнікаў. Новы міністр культуры Казімеж Дэймэк — гэта чалавек які мае агромнае пачуццё гумару. Ён — прынамсі звонку — не мае прыкметаў ўрадніка, а ў яго паводзінах выяўляецца душа артыста. Невядома, ці ад гэтага культуры ў Польшчы, асабліва яе матэрыяльнаму становішчу, будзе лепш ці горш, але, напэўна, будзе весялей. Пра Яцка Кураня, які ў Сейме займаецца справамі нацыянальных меншасцяў, шмат гаварыць не трэба. Гэты чалавек праўдападобна шчыра хоча, каб Польшча стала сапраўднай дэмакратычнай краінай, у якой усе грамадзяне мелі б роўныя правы і абавязкі.

Калі ідзе пра нацыянальныя меншасці, дык ува ўсіх наглядаюцца падобныя праблемы — клопаты з памяшканнямі, асветай, фінансамі і мясцовымі ўладамі. Цікава, што славак з Новасандэцкага ваяводства і беларус з Беластоцкага маюць амаль такія ж самыя праблемы ў кантактах з бурмістрамі, ваяводамі, войтамі. У адным і другім выпадку мясцовыя ўлады пры дапамозе чыншаў стараюцца ліквідаваць дзейнасць святліцаў, клубаў, якія шмат гадоў служылі меншасцям.

Шмат месца ў дыскусіі было адведзена неабходнасці прыняцця Сеймам закона аб нацыянальных меншасцях. Дамагаліся яго прадстаўнікі ўсіх нацыянальнасцей. Паводле слоў Яцка Кураня, паўстала ўжо сеймавая камісія, якая працуе над праектам адпаведнай пастановы.

На маю думку, такі закон у нічым не зменіць становішча нацыянальных меншасцяў і будзе толькі яшчэ адной гіганцкай папяровай працай, якая ў сапраўднасці не будзе мець ніякага значэння. Не раз ужо здаралася, што нават найлепшыя юрыдычныя пастановы былі затаптаныя несумленнымі ўраднікамі. Прыклад чыншаў паказвае, як — згодна з правам — можна прыкончыць кожную дзейнасць, якую праводзіць такая ці іншая меншасць. На маю думку закон аб нацыянальных меншасцях рыхтуецца не таму, што ён патрэбны польскай дзяржаве, але таму, што рашуча дамагаюцца гэтага нацыянальныя меншасці. Хочаце, дык калі ласка!

Міністр Міхал Стронк сітуацыю нацыянальных меншасцяў у Польшчы ацаніў як нармальную. Калі ў газетах пра беларусаў ці ўкраінцаў не пішуць на першай старонцы, значыць — усё добра. Меншасці не павінны быць дыскрымінаваныя ў ніводнай галіне жыцця, не павінны таксама быць надзелены прывілеямі, бо выкліча гэта агрэсію з боку большасці.

Міністр Казімеж Дэймэк паінфармаваў на канец сустрэчы, што Міністэрства культуры будзе патрабаваць ад Сейма прызначыць у 1994 годзе 20 мільярдаў злотых на патрэбы ўсіх меншасцяў. Гэтая сума — а невядома яшчэ ці будзе яна адобрана сеймавай камісіяй па фінансавых справах — павінна забяспечыць асноўныя культурныя патрэбы меншасных арганізацый і рэдакцый.

У той жа дзень у галоўным тэлевізійным дзённіку дыктар абвясціў, што дзяржава ў 1993 г. выдала на культуру нацыянальных меншасцяў 15 мільярдаў злотых, а ў 1994 г. плануецца выдаць ажно 30 мільярдаў. Сапраўднасць інфармацыі такая, як у часе ваеннага становішча.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# ЯШЧЭ ПРА ВЫБАРЫ

Прайшлі ўжо тры поўныя месяцы з часу парламенцкіх выбараў у Польшчы і эмоцыі вакол іхных вынікаў памалу сціхаюць. Хто толькі не каментаваў іх на свой лад! Заходнія аглядальнікі адрэагавалі зусім спакойна, як на вынік невыноснага цяжару эканамічных рэформаў і ўспрынялі перамогу камуністаў, як нармальную з'яву ў дэмакратычных выбарах.

Шматлікія палітыкі выразна паспускалі вушы, будучы вымушанымі сысці з п'едэсталаў да звычайнай партыйнай дзейнасці. Вытлумачэнне свайго пройгрышу яны знайшлі ў папулісцкіх абяцаннях пераможцаў. Пра тое, што змяняючы дабро краіны па ўсіх склонах яны згодна гістарычнай традыцыі рупіліся пра яго гэтулькі, штo і некалі шляхта — ніхто не гаварыў. Неахвотна і рэдка гучэлі таксама выказванні, што ў змаганні за крэслы, яны — у палітычным сэнсе — пазагрызаліся і проста абрыдлі збядненаму, расчараванаму рэчаіснасцю грамадству.

Да выбарчага паражэння беларусаў нічога новага не дадам. Няма таксама сэнсу лямантаваць над слабасцю беларуска-праваслаўнага асяроддзя. Беларусы на Беласточчыне — звычайныя грамадзяне Польшчы і жывуць тымі самымі клопатамі і праблемамі, што палякі ў цэлай Польшчы. Іхнага быту не паправіў Яўген Чыквін і не паправіў бы ніякі іншы, нават найлепшы пасол ці сенатар. Не ведаю, ці ўсе, але сяляне, асноўная маса беларускіх выбаршчыкаў, зацікаўлена перш за ўсё ў сякім-такім вяртанні сэнсу іхнай працы. Ім хопіць, каб было „так як пры Герку". Усё іншае — па-за штодзённым хлебам — малаістотныя дробязі нават для гарачых патрыётаў. Такая вось праўда, хаця і сумная.

Наша беларуска-беластоцкае асяроддзе малое і нязначнае, але вось пасля апошніх выбараў асабліва ёсць над чым задумацца рымска-каталіцкаму епіскапату ў Польшчы. Хаця іерархі ў шматлікіх выказваннях падкрэсліваюць, што нічога не сталася, аднак у іх голасе чуваць зразумелую заклапочанасць і няўпэўненасць. „Мы не прайгралі, бо мы не ўдзельнічалі ў выбарах" — сказаў у Ватыкане адзін біскуп з Польшчы. Ясна, што духавенства не выстаўляла сваіх кандыдатаў у Сейм і Сенат, але моцна агітавала за партыямі і канкрэтнымі палітыкамі хрысціянска-нацыянальнага накірунку, ідэалагічных перайімальнікаў даваеннай „эндэцыі". „Каталікі павінны галасаваць за каталікаў" — такі быў лейтматыў неафіцыйнай передвыбарчай кампаніі. Праўдзівыя, гэта значыць дысцыплінаваныя католікі павінны былі галасаваць за людзей, якія змагаліся ў Сейме супраць абортаў, у тэлебачанні — за „хрысціянскія каштоўнасці" (касцельную цэнзуру), за канкардат з Ватыканам (прывілеяванае становішча ў краіне), за рэлігію ў школах (здамінаванне асветы) і гэтак далей.

За каго пераважна каталіцкае грамадства прагаласавала насуперак назойлівай агітацыі — вядома. Яно прагаласавала за былых камуністаў. Праўда, што ніхто не гаворыць пра вяртанне т а г о камунізму, ніхто не баіцца, што пачнецца зноў перыяд праграмнай атэізацыі або не дазволяць будаваць новых касцёлаў, але ўсё ж такі, ці сапраўды нічога не сталася?

Я лічу, што ўсё-такі маем дачыненне з м а р а л ь н ы м паражэннем. Атрымалася, што ўплыў традыцыйнага польскага каталіцызму на свядомасць вернікаў — мізэрны. Возьмем аборты. Як праваслаўны, я таксама прынцыпова супраць іх, як своеасаблівай формы забойства, але ці ж у краіне ўзорнага каталіцызму запавет „не забівай" трэба падмацоўваць сеймавай, свецкай пастановай ці пракурорам? Пра нязначны або ніякі ўплыў на працьму іншых нацыянальных заганаў не буду гаварыць, бо адхілюся ад галоўнай тэмы.

Менавіта, так як палітыкі займаліся персанальнымі спрэчкамі і глупствамі, замест істотных для краіны праблемаў, гэтак і нахабства Касцёла перабрала ўсякую меру. У 1989-м годзе, калі „Салідарнасць" прыйшла да ўлады, для польскага каталіцызму настаі доўгачаканыя, бласлаўлёныя дні. Прыйшоў час адбіраць працэнты за шматгадовую падтрымку, ахову ды інспірацыю апазіцыйных дзеячоў, якія пераняці ўладу. Нарэшце можна было распасцерці крылы, адкінуць ярмо камуністычных путаў і абмежаванняў. Пачалося пераможнае ўмяшанне касцёла ва ўсе сферы жыцця: ад найбольш інтымнай да публічнай. Шчодра крапілі свячонай вадой бязбожныя школы, прадпрыемствы, шпіталі, аўтамабілі, танкі. Капеланы Святымі Імшамі падмацоўвалі баявую гатоўнасць нашай мужнай арміі, а яшчэ іншыя маліліся за памысны вынік футбольнага матчу сваёй каманды і асвячалі мячы. Беднае, бы Святы Францішак Асіжскі, каталіцкае духавенства атрымала розныя падаткавыя ільготы, каб без перашкодаў і без мыта імпартаваць такія неабходныя культавыя прадметы, як аўтамабілі, тэлевізары, камп'ютэры і спадарожнікавыя антэны. Некаторыя настаяцелі, не маргнуўшы вокам, пачалі адбіраць назад былыя касцельныя будынкі, занятыя ў свой час бязбожнікамі пад такія непатрэбныя ўстановы, як дзіцячы садкі або школы. Часам чуваць было нясмелыя галасы, што краіне пагражае „хамеінізацыя" і каталіцкі фундаменталізм, але хто там слухаў бы такіх „камунякаў"! У рэшце рэшт „свая, слушная" ўлада лепш ведае...

За мінулыя ад выбараў тры месяцы не назіраецца нейкай выразнай змены ў стаўленні новага ўрада да Касцёла. Не чуваць, каб нехта адважыўся замахнуцца на гэты маральны „аўтарытэт". Дык, можа, сапраўды нічога не сталася?..

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

# РАЗМОВА РАЗУМНАГА З КЕМЛІВЫМ

Сацыяліст:

— Нарабілася цяпер. Беспрацоўе. Усё дарагое. Жыць штораз цяжэй.

Капіталіст:

— А раней — што было? Каб нешта купіць за ўласнаручна зароблены грошы, прыходзілася кланяцца кожнаму чыноўніку.

— Але быў парадак.

— Аднак ён сам разваліўся таму, што быў неэканомны. Ідэалогія задушыла гаспадарку. Людзі развучыліся салідна працаваць.

— Кожны меў запэўненую працу, забяспечаныя сацыяльныя патрэбы, „народная ўлада" выцягнула нас з галечы. Кім, для прыкладу, я цяпер быў бы, каб пратрымаўся капіталізм Пілсудскага? У найлепшым выпадку пасвіў бы кароў, і то чужых. А так — з беднай сялянскай сям'і стаў я інжынерам.

— Вядома, не ўсё ў сацыялізме дрэннае. Аднак практыка даказала, што капіталістычныя краіны намнога лепш развіваюцца.

— Але ў нас цяпер настаў дзікі капіталізм!

— Я асабіста лічу, што нават дзікі капіталізм лепшы за самы лагодны камунізм. Справа ў тым, што камуністычная ідэалогія падаўляе волю людзей. А колькі было ахвяраў!

— Было калісьці рознае, нават расстрэльвалі многіх. Але пасля людзі жылі спакойна.

— У сацыялізме ўсіх падстрыгалі роўна. Тлумілі актыўнасць больш здольных. Нішчылі індывідуальную псіхіку чалавека, самастойнае мысленне ды здаровую канкурэнцыю. У капіталізме, нават у тым „дзікім", кожны змагаецца за свой лёс. Прыходзіцца салідна працаваць і думаць. У такой сітуацыі перамагаюць асобы моцныя, больш вартасныя, і яны кіруюць слабейшымі. А ў сацыялізме авансаваліся найчасцей падлізнікі ды спрытнюгі, якія мала рабілі, толькі хітрылі, камбінавалі, ашукоўвалі. Вось такія камандавалі тымі, хто салідна працаваў.

— У сацыялізме ўсе мелі забяспечаны пражытачны мінімум. Кожны меў працу, што есці, дзе жыць...

— Так, нават абібокі, жулікі і п'яніцы. Усе быццам і працавалі, а эфектыўнасць была мізэрная. Дам прыклад са свайго жыцця. Працаваў я калісьці трактарыстам у ПГРы. Нас у брыгадзе было пяць чалавек. Я стараўся араць як найбольш, каб зарабіць на сям'ю. Іншыя „абіваліся", а ўсім плацілі аднолькава. Тады я запрапанаваў адлучыцца, араць сам і атрымоўваць грошы за тое, што зраблю. Кіраўнік згадзіўся, але цэлы дзень стаяў і глядзеў як я ару, нават мераў глыбіню баразны. Здзіўляўся, што я адзін зараў больш, чым уся брыгада. Цэлы месяц я так стараўся салідна працаваць, падлічваў, колькі зараблю. А пры выплаце атрымаў мала больш за гультаёў. Чаму? Дырэктар не мог пагадзіцца, каб я зарабляў больш за яго! Плацілі, як хацелі, проста ашукоўвалі людзей! Вось і сацыялізм! Прыходзілася красці, каб нешта мець. Многія больш кралі, чым працавалі. Не было стымулу да працы. А больш карысталі тыя, што менш працавалі. Дзе тут справядлівасць? Людзі прывыклі спадзявацца на ўказы зверху, на ласку вяльможных. І цяпер яшчэ чакаюць, што вернецца „старое". Але гэтыя спадзяванні — дарэмныя. Цяперашні ўрад, хоць і левага накірунку, не верне ўжо ранейшага сацыялістычнага ладу.

— Давай пагаворым пра іншае...

**Падслухаў В. ХРЫСЦІНІН**

# QUO VADIS, БЕЛАРУСЬ!?

*Працяг са стар. 1*

нехта крычаў „Мы ім яшчэ пакажам. Будзе, як у 17-м!". Старэйшыя жанчыны трымалі лозунг „Великий Октябрь навсегда останется главным праздником угнетённых и эксплуатируемых трудящихся". Відаць, прапаганда добра за 76 гадоў замуціла ў галовах, калі эпізод 1917 года атаясамліваецца з пачаткам дабрабыту.

На правінцыі, у Радашковічах, звычайная нядзеля. У касцёле, дзе хрысцілі Янку Купалу, ксёндз гаварыў да вернікаў пра розум і „розсондэк" у жыцці чалавека на „трасянцы" — большасцю беларускай. У парку няма ўжо помніка Леніна — астаўся толькі пастамент. На мясцовых могілках знішчаная, зруйнаваная капліца, занядбаныя, забытыя магілы і вялікія сучасныя, агароджаныя месцы спачынку. З Верай Андрэеўнай (першай жонкай Браніслава Тарашкевіча) гаманілі мы амаль палову ночы аб гісторыі Беларусі, якой сведкам і ўдзельнікам была сям'я Веры Андрэеўны і яе знаёмыя. Для мяне была гэта раскоша душы пасля бібліятэкаў і архіваў.

Пасля спавітых холадам і асеннім спакоем Радашковічаў, у Менску вечарам у Інстытуце замежных моў (цяпер Беларускі універсітэт ці акадэмія?) у актавай зале „Рок супраць рэвалюцыі" — канцэрт, які наладзіла „Беларуская маладзёжная". Вёў Віталь Сямашка, а выступалі „Новае неба", „Мроя", „Зіндан", „Уліс", „Крама" і госці з рэвалюцыйнага Піцера. Для мяне галоўным лозунгам вечара былі словы Фелікса Аксёнцава, які хацеў бы, каб рэвалюцыя перанеслася на захад, а рок-н-рол — на ўсход. На ачадзелую ад рока моладзь пазіраў з-над сцэны „дзядзя Ленін з гітарай у руках".

9 лістапада пачалася XIII-я Сесія Вярхоўнага Савета, выбранага яшчэ пры Савецкім Саюзе ў 1990 годзе. На плошчы Незалежнасці перад Домам Урада людзей было няшмат. Напэўна менш чым 7 лістапада пад помнікам Леніна. Не дакацілася, відаць, яшчэ да ўсіх свядомасць холаду, высокіх цэн, дэвальвацыі „зайца" ці можа свядомасць, каб браць лёс у свае рукі. Увечары пасля дня працы на сустрэчу з грамадзянамі прыйшлі дэпутаты ад апазіцыі. Усе выступалі з крытыкай урада В. Кебіча, які вядзе Беларусь у шторaз большую эканамічную прорву, які раз'ядноўвае беларускую грамаду, выводзячы АМОН супраць людзей. Мяне асабіста ўзрушыла прамова святара з Оршы, які палымяна звяртаючыся да ўсіх сабраных і да маладых хлопцаў у мундзірах, і да тых, якіх не было на плошчы, выступіў у абарону беларускай годнасці. Успомнілася мне тады мая бабуля, якая мне, малой дзяўчынцы, тлумачыла, як жылося за „тых палякаў", „за тых ці другіх саветаў". Я тады ніяк не магла разабрацца ў бабулінай падняволенай філасофіі.

Чым закончыцца XIII-я Сесія Вярхоўнага Савета? Ці далей будзе працягвацца праца над Канстытуцыяй? Ці ўрад падасца ў адстаўку? Ці адбудуцца новыя выбары ў парламент увесну?

Пакуль што, вядома толькі адно: з 8 лістапада падаражаў бензін, новы курс беларускага „зайца" да расійскага рубля усталяваўся як 6,1 : 1. А ўрад гаворыць, што няма іншага выхаду, падае правакацыйныя заявы. Які тады сэнс прымаўкі: „Палка з двума канцамі"?

**ЛЕНА ГЛАГОЎСКАЯ**




*Менск, плошча Незалежнасці — 9 лістапада 1993 года.*

# „ТАТА І МАМА — БЕЛАРУСЫ"

Працяг са стар. 1

*— Што думаеце пра навучанне прадмета па прынцыпу добраахвотнасці?*

**ВОЛЬГА САЎЧЫНСКАЯ:** — Напэўна гэта цяжкая справа. Але я не ўяўляю сабе, што можна беларуса прымусіць да навукі беларускай мовы. Гэта добраахвотная справа, мы жывем у Польшчы. Хто хоча, той вучыцца.

*— Ёсць такія школы, дзе вучыцца гэтай мове ўся школа, нават палякі, напрыклад у Ласінцы.*

**ВОЛЬГА САЎЧЫНСКАЯ:** — Гайнаўка — гэта не вёска, гэта горад. І тут у нас многія бацькі саромяцца сваёй беларускасці. Націскі нацыяналістычныя таксама бываюць. У горадзе так было, ёсць і будзе.

*— Бельск-Падляшскі па-вашаму гэта вёска?*

**ВОЛЬГА САЎЧЫНСКАЯ:** — Гэта іншая справа. Каб у нас была такая школа як бельская „тройка", было б інакш. Бо ў кожнай гарадской школе, апрача Бельска, дзе ёсць тая мова вызначаная, няма навучання беларускай мовы.

*— Справай вялікай важнасці з'яўляецца і той факт, што ў вашай школе зменшылі* **ГАДЗІНЫ НАВУЧАННЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ З ТРОХ НА ДЗВЕ** *(заявіла мне аб гэтым візітатар па беларускай мове Тамра Русачык, два тыдні таму).*

**ВОЛЬГА САЎЧЫНСКАЯ:** — Так, у адным класе. Сталася гэта таму, што пані Кулачэўская не магла так скласці план, каб усім падыходзіў. Інакш чакалі б група вучняў і настаўніца.

*— Ці ў гэтай справе інтэрвеніяваў нехта з куратoрыі ці беларускіх арганізацый?*

**ВОЛЬГА САЎЧЫНСКАЯ:** — Не, ніхто. Я ўвогуле першы раз размаўляю аб гэтай справе з вамі.

*— За скарачэнне гадзін славакі падалі дырэкцыю ў суд. Не думаеце, што з гэтага здарэння можа паўстаць скандал з палітычным акцэнтам?*

**ІРЭНА КУЛАЧЭЎСКАЯ:** — Не. Я гэта матывавала б аб'ектыўнымі ўмовамі школы. Было б інакш, каб гэтая група з IV класа хадзіла ў адзін клас. Такая сітуацыя характэрная вялікім школам. Маем 49 аддзелаў, у гэтым 18 — з малодшымі вучнямі, дык мусім працаваць на змены.

*— Вы (пытанне да пані Кулачэўскай) выйгралі конкурс на дырэктара новай школы „на Мазурах". Ці сустрэліся вы з такімі галасамі, што трэба там увесці беларускую мову як абавязковы прадмет? Зразумела, што была б гэта звышраёнmen школа.*

**ІРЭНА КУЛАЧЭЎСКАЯ:** — Аб тым, што там мае быць абавязковая беларуская мова, я чую ўпершыню ад вас. Ніхто нічога на гэту тэму са мной не гаварыў. Я не супраць беларускай мове. Калі будуць такія намеры, то трэба было б гэтыя справы перадумаць, пабачыць, як гэта будзе выглядаць з юрыдычнага боку. Можа гэтая справа да мяне яшчэ не дайшла, бо намінацыю я атрымаю заўтра, г. зн. 1 снежня.

**В. САЎЧЫНСКАЯ:** — Мяне дзівіць толькі тое, што нашае „таварыства" (БГКТ) нічога не робіць. Чаму мы маем ім аб гэтым гаварыць, а не яны нам? Бо калі памогуць, тады можна было б нешта зрабіць для беларускай мовы. А матывацыя ёсць — беларускі ліцэй.

*— Ці ў вашай школе застанецца беларуская мова?*

**В. САЎЧЫНСКАЯ:** — У гэтай школе такія групкі, якія зараз маем у нас — патрэбныя. Я не ўяўляю сабе, што вучань, які жыве недалёка нашай школы, пойдзе на „Мазуры". І тут напэўна будуць добраахвотнікі. Але ў нас заўсёды будзе толькі і выключна як прадмет дадатковы.

*— А каб улады загадалі вывучаць беларускую мову ў кожнай гайнаўскай школе як абавязковы прадмет?*

**В. САЎЧЫНСКАЯ:** — Мы б упісалі яе ў план як іншы абавязковы прадмет, так як рэлігію.

* * *

**Працягваю размову з настаўніцай беларускай мовы ТАМАРАЙ ГРЫГАРУК.**

*— Якіх яшчэ, апрача беларускай мовы, навучаеце прадметаў?*

**Т. ГРЫГАРУК:** — Навучаю яшчэ польскай мове і гісторыі.

*— У якіх класах вучыце?*

— Беларускай мове ў 2 класе і там ёсць 18 вучняў, у трэцім класе — 6 вучняў і ў чацвёртым класе — 4 вучні.

*— Ці не абурае вас, што беларускую мову скарацілі з 3 на 2 гадзіны ў IV класе?*

— Гэта была агульная праблема. Мне склалі такі план, які можна было.

*— Як вы ўспрымаеце факт, што ў тым жа IV класе беларускую мову ўвялі пасля месяца навукі?*

— Не разумею.

*— Не было навучання беларускай мовы ў верасні.*

— Была такая праблема, што я не магла прыстасаваць свае гадзіны працы да гадзін вучняў.

*— Як дзеці ставяцца да беларускай мовы?*

— У другіх класах дзеці вельмі прыхільна адносяцца да беларускай мовы, і ў трэцім прыходзяць і гавораць мне, што **больш любяць беларускую мову чым польскую.** Бацькі таксама гавораць мне: „каб не вы, маё дзіця не знайшлося б тут на ўроку". Я толькі што пачынаю. І сама бачу паправу, бо мела толькі 2 гадзіны, цяпер маю — 6. Праз год зноў дойдзе яшчэ 2 гадзіны ў тыдзень.

*— За шэсць гадоў назбіраецца 18 гадзін беларускай мовы?*

— Я думаю, што змагу ўтрымаць гэтыя дзеткі. Арганізую ім ёлку, конкурсы, карыстаемся дыдактычнымі гульнямі.

*— А калі ў пятым класе не будзе магчымасці зямясціць беларускую мову ў плане заняткаў?*

— Не будзе такога перапоўненага плана, таму, што адкрываюць новую школу „на Мазурах". У нас будзе менш гадзін.

*— Ці бачыце неабходнасць навучання гэтай мовы?*

— Калі бацькі бачаць, дзеці бачаць, то і бачу. Я хаджу, заахвочваю, першы ўрок прызначыла тэме: „Чаму трэба вучыцца роднай мове?" У беларускі ліцэй яны ж пойдуць.

*— Апрача ліцэя няма іншай матывацыі?*

— Беларусы. Я іх навучыла такі верш: „Тата і мама — беларусы і мы — беларусы".

*— Ці Вы хацелі б вучыць беларускую мову на такіх прынцыпах, як польскую?*

— Гэта ж залежыць ад улад.

*— Дзякую за размову і спадзяюся з Вамі сустрэцца праз тры гады ў б класе.*

**ГАННА КАНДРАЦЮК**

P. S. *Калі я ехала ў школу, мела і на ўвазе тое, што там прачыталі мой артыкул пра іх „А што гэта за вучні". Аднак была я расчараваная, бо „Ніву" ў школе н-р 1 ніхто не чытаў. Калі я расказала змест артыкула настаўніцы, дый атрымала заслужаную падзяку:*

*— Вы падрэзваеце горла беларускім настаўнікам, нішчыце тых, што нешта робяць.*

*Настаўніца, калі не абураецца на сітуацыю апісаную ў „А што гэта за вучні", „падрэзвае горла беларускаму школьніцтву". А калі справа яе не датычыць, няма за што крыўдзіцца.*

# Беларусь у чатырох сцэнах

**24 лістапада 1993 года ў Расейскім доме культуры і інфармацыі (раней быў гэта Дом савецкай навукі і культуры) у Гданьску была адкрытая выстаўка беларускага жывапісу. Свае працы экспанавалі Міхал Карпук, Уладзімір Новак, Мікола Цудзік, Аляксандр Зіменка, Мікола Апіёк. Амаль усе працы прадстаўляюць беларускі пейзаж, прыгажосць беларускіх краявідаў у розныя поры года, беларускі лес, поле, вёску... У такой беларускай прыгажосці, сцякаючай на глядачоў з запоўненых карцінамі чатырох сцен залы, усе прамовы былі малаважнымі — забівалі іх беларускасць, мастацтва. Арганізатары выстаўкі — дырэктар Расейскага дома культуры і інфармацыі Уладзімір Пісарук і Генеральны консул Рэспублікі Беларусь Аляксей Шаховіч — прывіталі сабраных „в общеславянском духе". Беларускасць прамаўляла сваім вобразам і тут было відаць усё — нават далікатнасць душы беларускага мастака, бачная ў букеце васількоў і рамонкаў і ў краявідах, спалучаючых далікатнымі лініямі неба з зямлёю ў вобразах Міколы Цудзіка, у беларускай зімовай вёсцы Міхала Карпука, у раздоллі беларускіх лугоў Міколы Апіёка ці ў далікатных пераменах пораў года Уладзіміра Новака. Крыху адрозніваліся карціны Аляксандра Зіменкі — з іх прамаўляла вострая і загадкавая сімволіка.**

**Шкада, што да адкрыцця выстаўкі не быў выдадзены каталог. Магчыма, усё рабілася „на хаду". Мы, гданьскія беларусы, даведаліся пра яе дзень перад адкрыццём. Сваёй прысутнасцю мы далучыліся да маўклівай прамовы карцінаў.**

**Ад імя мастакоў выступіў Міхал Карпук, а бард Анатоль Кудласевіч праспяваў некалькі беларускіх песень свайго аўтарства. Можна было купіць зборнік ягоных вершаў „Плакун-трава".**

**ЛЕНА ГЛАГОЎСКАЯ**

## ПАПРАЎКА

Сардэчна прашу прабачэння ў дырэктар школы ў Орлі **Яўгеніі Васілюк** за тое, што ў сваім артыкуле „У Орлі школа жыве!" („Ніва" н-р 49 ад 5 снежня 1993 г.) зьмяніў ейнае імя.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# НЯСПОЗНЕНЫ ПАРАТУНАК?

Час-часам сядаю пачытаць кніжку Міколы Гайдука „Паратунак", апублікаваную сёлета ў Менску. Салідны том гістарычных эсэ, у якіх знаходзіць чытач дакладную інфармацыю пра беларускае мінулае і, адначасна, роздум над ім. І што спецыяльна вартаснае — гэта пастаянная прысутнасць у „Паратунку" нашага Падляшша, няпростых шляхоў ягонага лёсу.

Хочацца канцэнтравацца не на рэцэнзаванні выдання, а паразважаць аб ролі такое публікацыі. Найпершае, што прыходзіць у галаву, дык шкадаванне, чаму „Паратунак" не з'явіўся гадоў дзесяць назад?!. Жыла ў народзе цікавасць да ўласнае гісторыі, маладое пакаленне не было так трагічна спольшчанае бацькамі і самім драпежным існаваннем у надышоўшы „дзікі капіталізм". Памятаю, у восемдзесят сёмым з'явілася ў продажы мая „Беларусь, Беларусь", каб купіць якую на кніжным кірмашы стаяла чарга з некалькіх сот чалавек, не паменшаўшы аж да вечара. Званіў хатні тэлефон, заходзілі на кватэру зусім незнаёмыя мне з просьбай дапамагчы ім набыць „Беларусь, Беларусь". Здавалася, пачынаецца адраджэнне нацыі. О, цуд ілюзіі!

Пісаў я „Беларусь, Беларусь" не як знаўца гісторыі, такім не быў і не ёсць, але як беларускі пісьменнік, які сам адкрыў веліч роднага мінулага і зажадалася падзяліцца той радасцю з чытачамі. Не больш. Тым часам Мікола Гайдук склаў каля паўтары сотні апавядаў з усімі патрэбнымі гэткаму жанру аспектамі. У іх гістарычная праўда, кантэкст эпохі, таксама, шырэйшы — еўрапейскі — фон. Чытаеш і атрымліваеш задавальненне ад яснасці аўтарскага погляду, паказу канкрэтных падзей, урэшце, ад дбайна напісанай фразы, дакладнасці слова. Сям-там спрэчныя пытанні, але не балаганныя. Можна мець да Гайдука прэтэнзіі за незразумелыя русізмы, некаторы дыдактызм або вельмі няроўна патрактаваныя ім у мастацкім сэнсе паасобныя тэксты. Гэта нармальныя жалі.

У цэлым, аднак, том „Паратунак" пакідае добрае ўражанне. Пра такую кніжку павінна шумна дыскутаваць асяроддзе, насіць яе ў руках з нецярпліва перакрэсленымі старонкамі, наконт якіх пеніцца нязгода!.. Нічога падобнага не відаць. Яе як быцам і наогул няма. Хоць у вітрынах нашых рэдакцыяў бачны ейныя запыленыя вокладкі. Гэта благі знак узроўню інтэлектуальнае кандыцыі эліты і ніжэйшых слаёў меншаснага грамадства. Раней такое не здаралася.

Нешта кепскае адбываецца.

Нават пра гадавіну Слуцкага паўстання забыліся. Вірлівыя нядаўнім часам арганізацыі пазацыхалі. Адзіны рэгулярны пульс — штотыднёвае з'яўленне „Нівы" ў кіёсках. „Часопіс" страціў штомесячную пунктуальнасць назаўтра пасля першага дня. У чым справа? Напэўна ў грошах, але ці толькі? **Точыць сілу нашай нацыянальнай волі чарвяк быту.** Хлопцы перасталі быць хлопцамі, а дзяўчаты — дзяўчатамі. Паявіліся сем'і і дзеці ў БАСе, у БДА, і ва ўсім Беларускім саюзе. Ну, а ў рэдакцыі „Нівы", дык не? Усё яшчэ кавалеры ды панны там? Відаць, так, калі глядзець на рытмічнасць працы ў тым калектыве...

Мова. Кажуць іншыя: вінавата беларуская мова. Бо, калі б па-польску... Добра, „Часопіс" выдаецца амаль цалкам на польскай, аднак жа энтузіястычнага тыражу-накладу ў ім не заўважаецца. От, трохі вышэйшы за „Ніву" і столькі ўсяго шчасця. Не дзесяцітысячны, ані хаця б пяцітысячны або трохтысячны зімою і летам.

Справа не ў мове, браты і сёстры. Справа, якраз, у нашай беднасці, з якое бярэцца традыцыйны страх перад традыцыйным палякам, каб не пазбавіў нас заробку і кавалка хлеба. Баішся „Нівы" па-беларуску, дык купі „Часопіс" па-польску. Не купіш, хоць ён і па-польску, але не польскі, беларускі духам. Угледзіць газэціну незнаромам страшны табе паляк, прачытае, і што тады падумае?! Мы, як парабкі, жахаемся пана!

Беларуская меншасць перавандравала ў гарады, мястэчкі. У вёсцы пачувалася адважней, наўкола жылі адны свае людзі. У Бельску або ў Беластоку ўжо трэба мець характар, а не ў кожнага ёсць. Купіць „Ніву" на Рынку Касцюшкі — як публічная дэкларацыя, што я беларус. Гэта не тое самае, што ў Старым Беразове.

Прынесці дамоў „Паратунак" — той самы рэферэндум. Больш таго: глыбей уведаць, што гэта значыць застацца сабою. Хам скажа: на халеру мне!?

Надзея памірае апошняй. Не трачу надзеі, што загаловак „Паратунак", надзены кніжцы, усё-такі неяк спраўдзіцца, не з мёртвага ён свету. Ідзе эпоха эгаізму, праўда, трэба выратавацца да яе прыходу да нас.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

# Зорка
## Старонка для дзяцей

### З вучнёўскай творчасці
## КАШТАН

У пятніцу, калі канчаецца школа, люблю хадзіць на начлег да бабулі і дзедкі. Раніцай, калі прачынаюся, заўсёды спаглядаю ў акно. А там — быццам карціна нейкая: клёны і каштаны, бярозы і грабы. Вялікі каштан стаіць пад самым акном. Кожнай восенню я збіраю спелыя каштаны, якія спадаюць з дрэва, і заношу іх у школу. Там мы робім з іх розных чалавечкаў і звяркоў. Сёлета я зрабіла цэлае стада маленькіх і большых баранчыкаў. Тулава і галава былі з каштаноў, а ногі, шыя і рогі — з запалак. Настаўніца сказала, што ў мяне атрымаліся вельмі добрыя прапорцы.

Калі клаліся спаць у тую асеннюю ноч з пятніцы на суботу, каштан стаяў яшчэ з заплацістымі лісцьмі, і за акном было калярова. Уначы пачаў дзьмуць вецер. Ён насіляўся і насіляўся, і ў мяне аж у вушах пачало звінець. Я перапужалася і спытала бабулю, што дзеецца. „Спі, — супакоіла мяне бабуля, — гэта дзьме вецер".

Раніцай я, як заўсёды, глянула ў акно. Каштан за адну ноч стаў голы і смутны. Усё навокал было заслана лісцьмі. Мне здалося, што каштан працягнуў да мяне свае рукі, быццам просячы дапамогі.

Мне стала вельмі сумна. Хацелася плакаць. „Не плач, — сказала бабуля. — Гэта вецер лісце здзьмухнуў. Вясной ізноў нарастуць. Жыццё, яно заўсёды такое..."

**Ада Семянюк**



*Прыемна пагрэць зімой далоні кубачкам з гарачым малаком.*
**Фота М. Ваўранюка**

### З гісторыі Беларусі
## РАГВАЛОД І РАГНЕДА

Рагвалод — першы беларускі князь, якога прыгадваюць старажытныя летапісы. Ён валадарыў у Полацку ў другой палове X стагоддзя. Пра яго летапіс кажа: „Рагвалод прыйшоў з-за мора", што дае пэўныя падставы лічыць князя выхадцам са Скандынавіі. Ужо пры Рагвалодзе Полацкае княства — моцная ўсходнееўрапейская дзяржава.

У Рагвалода была дачка Рагнеда, ганарлівая і прыгожая князёўна. Так сталася, што да яе адначасова пасваталіся гаспадары суседніх княстваў: Яраполк з Кіева і Уладзімір з Ноўгарада (пазней названы Хрысціцелем). Рагнеда выбрала Яраполка. Абражаны адмовай Уладзімір пайшоў на Полацак вайною. Горад быў спалены, а Рагвалод, ягоная жонка і два сыны забітыя. Рагнеду Уладзімір гвалтам узяў за жонку, даўшы ёй імя Гарыслава.

Праз некаторы час, жывучы пад Кіевам у сяльцы Прадславіне, Рагнеда спрабавала адпомсціць Уладзіміру: „За тое, што бацьку майго забіў, зямлю яго ў палон узяў, а цяпер не любіш ні мяне, ні дзетак нашых!" Але замах быў няўдалы. Раз'юшаны Уладзімір хацеў пакараць княгіню смерцю, але яму перашкодзіў малалетні сын Ізяслаў, які стаў у абарону маці з мечам.

За гэта Рагнеду з сынам выслалі ў Полацкую зямлю. Там для яе збудавалі горад, названы Ізяслаўль (цяпер Заслаўе пад Менскам) — ад імя сына Ізяслава. Менавіта гэты Ізяслаў, заняўшы дзедаў пасад, адрадзіў полацкую княскую дынастыю.

Акрамя Ізяслава Рагнеда нарадзіла Мсціслава (які пазней стаў князем чарнігаўскім), Яраслава Мудрага (князя ноўгародскага і кіеўскага, заснавальніка роду Яраславічаў), Усевалада і дзвюх дачок — Перадславу (узяла шлюб з чэшскім князем Баляславам III Рудым) і Прэміславу (выйшла замуж за прынца вугорскага Ласла Сара Лысага). Дарэчы, унучкі Рагнеды таксама былі жонкамі еўрапейскіх манархаў: Анастасія — вугорскага караля Андрыя I, Лізавета — караля нарвежскага Гаральда III, а пасля караля дацкага Свена II. Наймалодшая, Ганна, стала каралевай Францыі, выйшаўшы замуж за Генрыха I Капета.

У Заслаўі Рагнеда пастрыглася ў манашку пад імем Анастасіі і памерла там у манастыры ў 1000 годзе. Сёння для нас яе імя — сімвал мужнасці і любові да Радзімы, самаахвярнасці і ўласнага гонару.

## КІЙ

У алфавіце І служыла злучнікам. Злучала літары. Складала з іх словы.

Аднойчы А, І, Б сядзелі на коміне. Ды раптам А ўпала, Б прапала. Засталося І. Сумна стала, пайшло І шукаць новых сяброў. У алфавіце па суседству з імі жылі літары Й, К.

— Давай сябраваць, — прапанавала ім І.

Пагадзіліся Й, К. І паставіла ўперадзе сябе К, а ззаду — Й. Утварылася слова КІЙ.

Іра кіем выганяе казу з капусты:
— Ідзі, каза, карміся канюшынай.

Міша сеў на кій, як на каня, катаецца. Іржэ скакун пад ім.

Міша крычыць:
— Імчы, мой Канёк-Гарбунок, у космас!

У бабы Каці балелі ногі. Яна хадзіла і абапіралася на кій.

Усім спатрэбіўся кій.

**УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ**

## Вершы Віктара Шведа

### КАЛІ Ж ТЫ ДАРАСЦЕШ, МОЙ ТАТА?

Тату гарэзлівы Сярожа
Пытае нечакана прама:
— Ці чалавек дарослы можа
Рабіць усё без згоды мамы?

— Вядома, можа, мілы браце, —
Тата сцвярджае зухавата.
— Тады калі ж у нашай хаце
Ты дарасцеш, мой мілы тата?

### ЦЭЛЫ ЗАРЖАВЕЛЫ

На пляжы ўбачыў Жэня
Мужчыну з рабаціннем.
Ад ступняў аж па вушы
Ён мноства меў вяснушак!

Нат на сваім абліччы!
Ніхто іх не палічыць!
— Глянь, тата, ён жа цэлы
Страшэнна... заржавелы.

### ТРЫ ПАРЫ АКУЛЯРАЎ

— Чаму ты, дружа, аж тры пары
Маеш уласных акуляраў?
— Адны, мой даражэнькі Ваня,
Патрэбныя мне да чытання,

Ну а другія, зразумела,
Калі выходжу на свет белы.
А трэція па ліку з іх —
Калі шукаю першых і другіх.

### ТРЭБА ВЫКУПАЦЬ СВІНКІ

Да вясковай бабуленькі Нінка
З гарадскога прыехала дому.
Там убачыла брудныя свінкі
У хлявочку на бруднай саломе.

Да бабулі бяжыць яна хутка:
— Сёння ж маем святую нядзельку.
Трэба выкупаць свінкі чысцютка
І змяніць неадкладна пасцельку.

### ЦІ ГЭТА ПРАЎДА?

Дзівоснае пытанне мама
Пачула раптам ад Адама:
— Скажы мне, мама дарагая,
Ці гэтак у жыцці бывае,

Што я ў хвіліну нараджэння
Знаходзіўся ў такім здзіўленні,
Што потым амаль год з паловай
Не адазваўся нават словам?

### ЧАМУ?

Пытанні тату свайму
Сынок задае: — Чаму?
Чаму гэта так, а не так,
Чаму не пайму аніяк?

А тата на гэта: — Сынок,
Ты замаўчы хоць разок.
Сынок у адказ яму:
— Чаму?



*Якое дзіця атрымае ад Дзеда Мароза канькі, лыжы, а для каго будуць санкі?*

## Вясёлы куточак

— Ты сам напісаў гэты верш?
— Кожны радок.
— Прыемна мне пазнаёміцца з самім Міцкевічам.

* * *

— Ты прызнаўся ў хаце, што атрымаў двойку?
— Так.
— І што?
— Нічога. Бацькоў у хаце не было.

* * *

— Ало! Паліцыя? Прыязджайце хутчэй! Кот пагражае, што мяне з'есць!
— Што за жарты? За такія жарты можна паплаціцца, малады чалавек!
— Які „малады чалавек"? Я — папугай Лора!

* * *

— Чаму вы заяўляеце аб крадзяжы з такім спазненнем? Вы ж гаворыце, што адразу звярнулі ўвагу: усё ў доме дагары нагамі.
— Ды... Спачатку я думала, што гэта мой сынок шукаў чыстую кашулю.

* * *

На ўроку ў першым класе настаўніца пытае:
— Скажыце, дзеці, якая розніца паміж сонцам і электрычнай лямпачкай?

Вучні задумаліся, а потым адзін з хлапчукоў сказаў:
— Бо сонца нельга патушыць.

Падборку зрабіў **Янка Ляўкоўскі**

### БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ
## БЛІН ГАРЫЦЬ

З грамады ігракоў выбіраюць аднаго лаўцом. Усе астатнія становяцца адзін каля аднаго даволі шчыльна. Вакол гэтай групкі лавец абводзіць на зямлі круг. Стаўшы спіною да круга, ён крычыць: „Блін гарыць!" Усе выбягаюць з круга і стараюцца забегчы зноў у круг, каб не папасціся лаўцу. Каго лавец зловіць, той выходзіць з круга, а лавец ідзе ў круг.

 

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАЎІІ

## 6

*(Працяг з папярэдняга нумара)*

### Пашапчы — палічы

Абсталяванне: 5—10 палачак даўжынёю па 7—10 см, напалову цёмных (у кары), напалову светлых (без кары). На плакаце або праз кадаскоп даецца слова. Вучні павінны ўзяць столькі палачак цёмным канцом уверх, колькі ў слове літар (палачкі трэба трымаць веерам, каб можна было вызначыць іх колькасць), а затым столькі палачак светлым канцом уверх, колькі ў слове гукаў. Словы трэба прамаўляць шэптам, услухоўвацца ў гучанне іх, каб не памыліцца ў вызначэнні колькасці гукаў і літар.

Для пачатку лепш браць кароткія словы з аднолькавай колькасцю гукаў і літар, затым — кароткія з рознай колькасцю гукаў і літар *(дзед, яма)*, потым даўжэйшыя; пазней — словы, у якіх не кожны гук вымаўляецца *(касьба — [каз'ба], ледзь — [лец'], і інш.)*.

*Варыянты*:

1. Кожны вучань выкладвае на стале перад сабою ў два рады чорныя і белыя кружочкі (па колькасці гукаў і літар у кожным слове).

У абодвух варыянтах абмяжоўваецца час. Ачкі налічваюцца наступным чынам: пяць слоў — дзесяць балаў (пяць за гукі, пяць за літары), калі не дапушчана ніводнай памылкі. За кожную памылку ў вызначэнні колькасці гукаў або літар у слове бал здымаецца.

2. Вядучы называе слова і лічыць нягучна: *раз, два* і г. д. Удзельнікі пляскаюць у далоні пад гэта лічэнне столькі разоў, колькі гукаў (літар) у слове. Як толькі гэта колькасцьканчаецца, вучні апускаюць рукі, хоць вядучы і прадаўжае лічыць. Хто памыліўся і пляснуў лішні раз, выбывае; апусціў рукі раней — таксама. Гэты варыянт гульні праводзіцца ў вельмі хуткім тэмпе і патрабуе вялікай пільнасці.

### Літара ў слове

Абсталяванне: карткі з літарамі (можна выкарыстаць літары з разразной азбукі), наклееныя на кардон, акрамя *й, ў, ы, ь*.

Удзельнікі становяцца кругам або садзяцца вакол стала, адзін з іх раздае карткі з літарамі — спачатку кожнаму па адной, затым па другой і г.д. Каму дасталася апошняя картка, той будзе першым вядучым. Можна вызначыць вядучага таксама пры дапамозе лічылкі:

*Раз, два, тры, чатыры, пяць —*
*Пачынаем мы гуляць:*
*Трэба літару назваць,*
*Трэба слова падабраць.*
*Табе першым (першай) пачынаць.*

Першы вядучы бярэ адну са сваіх літар, называе яе і аддае каму-небудзь з удзельнікаў. Той называе слова, якое пачынаецца на дадзеную літару і робіцца наступным вядучым, а першы — радавым удзельнікам гульні. Калі за 20—30 секунд слова не падабрана або зроблена памылка, удзельнік вяртае картку і выбывае да канца тура (выходзіць з круга або прыбірае рукі са стала) і сочыць за ходам гульні. Калі ж памыляецца вядучы, няправільна назваўшы літару, то выбывае ён, а замест яго гульню вядзе той, хто атрымаў ад яго літару (называе літару і слова). Не здолеў і ён — аддае літару наступнаму і г. д.

Паколькі літары ходзяць з рук у рукі, іх можна скарыстоўваць па некалькі разоў, але словы не павінны паўтарацца. Кожны, у тым ліку і выбраўшы, мае права запытаць пра значэнне слова або выправіць заўважаную памылку, калі „гаспадар" слова не справіўся з гэтым. Тады выбраўшы становіцца на яго месца.

*Варыянты*:

1. Вядучы аддае літару не чарговаму ўдзельніку і не адразу, а як бы шукае вачыма, каму яе аддаць, стараецца захапіць знянацку. Кожны пільна сочыць за вядучым і імкнецца хутчэй падабраць патрэбнае слова. Чым менш застаецца ўдзельнікаў, тым хутчэй тэмп, больш напружаная барацьба за першынство.

2. Вядучы адзін, ён выцягвае са стоса літары і аддае чарговаму ўдзельніку; той, назваўшы літару, падбірае слова і пакідае літару ў сябе. Калі хто памыліўся ці не паспеў падабраць слова, вяртае картку (вядучы кладзе яе ў сярэдзіну стоса), але з гульні не выбывае. Картак з адной літарай можа быць па некалькі, словы ж быць павінны розныя. Пры значэнне слоў пытае вядучы і пры памылцы таксама забірае картку назад. Як толькі карткі ў вядучага скончыліся, робіцца падлік ачкоў па колькасці картак у кожнага з удзельнікаў.

*(Працяг у наступным нумары)*

*МАКСІМ БАГДАНОВІЧ*

**ЗАВІРУХА**

У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па іх, звініць, пяе,
І спеў ліецца ўсё мацней —
Гулянку справіў пан Падвей.
У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па іх, звініць, пяе.
Ўскіпела снежнае віно,
І белай пенай мкне яно.
У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па іх, звініць, пяе.
Па вулках вее дзікі хмель,
Гудзіць сп'янелая мяцель.
У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па іх, звініць, пяе.

*ДАНУТА БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА*

**БЯРОЗА**

Снежная пустэча.
Бель у вочы коле...
І адна бяроза —
Вартаўніца поля.

Легкадумны вецер
Між галін смяецца,
Хоча запаланіць
Белакосай сэрца

Хоць бярозу вабіць
Ў даль начную зорка,—
Стыне, не пакіне
Роднага пагорка.

Паглыбляй свае веды

# БАРСУК

Барсук — невялікі звер даўжынёй цела да 1 метра і масай каля 10—12 кілаграмаў. У яго клінападобнае цела на кароткіх нагах, маленькая выцягнутая галава пераходзіць у масіўнае тулава, пакрытае шчаціністым, грубым, рэдкім футрам. Спіна і бакі буравата-шэрыя, уздоўж хрыбта цягнецца цёмны „рэмень"; горла, ніз шыі, грудзі, брушка — чорна-бурыя. Морда і канцы вушэй белыя, ад вачэй да вушэй праходзяць чорныя палосы.

Вядзе пераважна начны спосаб жыцця. Невялікай вузкай мордачкай, якая заканчваецца носам-пятачком, барсук, як і дзік, узорвае лясную глебу, шукаючы чарвей, насякомых, выкопвае цыбулінкі і карэнні сакавітых раслін. У беларускіх лясах барсук водзіцца паўсюдна, але больш любіць шыракалістыя, дзе рые глыбокія норы. Галоўны выхад нары лёгка пазнаць па купінах свежай зямлі, выкінутай з унутраных хадоў. Норка барсука — глыбокі падземны лабірынт, дзе тунелі падземнага „метро" маюць як бы некалькі паверхаў, іншы раз глыбінёй да 3—4 метраў. Барсукі вельмі любяць свае сховішча і, калі іх не трывожыць, жывуць у ім дзесяцігоддзі. Лета і восень барсук добра харчуецца, накопліваючы пад скурай значную колькасць тлушчу, і ў канцы лістапада звычайна ўжо залягае ў спячку ў самым аддаленым адсеку свайго логава на мяккай пасцілцы з сухога лісця на глыбіні каля 2 метраў і каля сямі метраў ад уваходу. Зімовы сон барсука — своеасаблівае прыстасаванне звярка да кепскіх умоў, калі наступаюць халады і знікаюць кармы.

Цікава, што пры ўтрыманні барсука ў заапарку ён не ўпадае ў спячку і актыўны ўвесь год. А ў прыродзе ён амаль тры чвэрці свайго жыцця праводзіць у спячцы. Спіць усю зіму, а летам вядзе начны спосаб жыцця і актыўны не болей 6 гадзін у суткі. Барсук вельмі ахайны звер, нару сваю трымае ў чысціні, ніколі не есць у ёй і не робіць „туалет".

Некалі барсук займаў значнае месца ў прамысловых нарыхтоўках футры ў Беларусі; напрыклад, у 1928-1939 гадах было нарыхтавана да 10 тысяч скурак, з 1945 па 1966 год — звыш 150 тысяч скурак барсука. Бязлітаснае вынішчэнне прывяло да таго, што зараз барсук на грані знішчэння і занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі.

**А. КУРСКОЎ**

# „Гімназісты" з Вільні

З прывітаннем да Вас настаўніца Алена Базюк з Вільні. Вы чыталі ўжо пра нашу беларускую школу ў Вільні на старонках „Нівы".

Сёння пятніца. У мяне працоўны дзень быў напружаны, ды і не толькі ў мяне — ва ўсіх нас: выстаўлялі адзнакі за трымесетр (гэта значыць — за 3 месяцы). Адзнакі неблагія. Вучымся па 10-цібальнай сістэме. У Літве ва ўсіх школах так. У мяне з чатырох класаў адна „5", у асноўным жа „7" ці „8". Ёсць „9", але ў самых разумнікаў. „10" я не стаўлю. Беларуская школа тут толькі першы год, таму, думаю, на „дзесяць" яшчэ ніхто не здолеў вывучыць. Восьмы клас моцны, там дзве „9".

З нейкім заміраннем сэрца заходзіш кожны раз у клас: ну што ж на гэты раз выкінуць мае вырванцы? Адзін клас непадобны на другі. Зойдзеш у 8-ы — амаль дарослыя; тут і пажартаваць, і пажурыць, і, як кажуць, „падкалоць" можна — не пакрыўдзяцца, ды і працуем мы, як роўныя з роўных. Ідзеш у 7-ы. Перада мной — родныя твары: і тыя, у якіх дзяцінства ў самым разгары, і тыя, у якіх яно скончылася, а дарослаець яшчэ не наступіла, і тыя, на якіх адкрыта напісана: я ўжо дарослы, і мне нецікава гуляць у дзіцячыя гульні. Часам прыходзіцца, што называецца „начасаць патыліцу", каб усім стала цікава. Прыходзіцца праводзіць конкурсы, урокі-гульні і сур'ёзныя залікі па пройдзенай тэме.

Мае выхаванцы, я іх называю — мае дзеці, гэта 5 і 6 класы. Пазвінеў званок, іду ў клас і ведаю — нешта будзе непаўторнае: то ўказку зламалі, то пабывалі ў нейкім цікавым месцы і дзеляцца ўражаннямі, то ўзбуджаныя, чырванашчокія — пасля



*Хлопцы з Вільні з настаўніцай Галінай Сівалавай.*

**Фота Л. Глагоўскай**

фізкультуры, то ў кагосьці нешта здарылася дома... Вырашаем праблемы разам. Дзеці хочуць вучыцца. У іх яшчэ не з'явілася тая дарослая хітрасць, што можна выкруціцца, неяк абысціся. Сумленна стараюцца вырашаць, што ад іх патрабуеш. Імкнуцца зрабіць лепш, чым у сябра. Хто ж не любіць пахвалы?!

З якім заміласваннем чакаем дня нараджэння каго-небудзь! Тут можна і смачны торт пакаштаваць, і ў гульні пагуляць, і проста музыку паслухаць!

Нядаўна праводзілі мы вясёлы конкурс паміж класамі. Тут і хлопцы паказалі, як яны ўмеюць дзяўчатам прычоскі рабіць, ды і дзяўчаты не засталіся ўбаку — накармілі хлопцаў з лыжкі гарбатай з завязанымі вачыма, і малявалі, і рэкламу прыдумвалі, і сцэнкі ставілі... Вось так мы адпачываем і працуем. Калі ўсе разам, то можа штосьці і атрымаецца. Трэба толькі прыдумаць і захацець.

**АЛЕНА БАЗЮК, Вільня**

# Лагагрыф

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | | | |
| 2 | | | |
| 3 | | | |
| 4 | | | |
| 5 | | | |
| 6 | | | |
| 7 | | | |
| 8 | | | |
| 9 | | | |

1. кіслы напітак, 2. племянны сход нашых даўніх продкаў, 3. без яго не адкрыеш замка, 4. вялікі танцавальны вечар, 5. даўгавухая жывёла, імем якой абзываюць няўмеку, 6. гаспадарская прылада з доўгімі і вострымі зубамі, 7. так на Беласточчыне называецца жніўеньскае свята, калі вернікі паломнічаюць у Грабарку, 8. чэрвень, ліпень і жнівень, 9. сярэдзіна атама або лёгкаатлетычны снарад, які выдатныя атлеты штурхаюць на адлегласць каля 20 метраў.

Вылучаныя літары складуць назву двухколкі, на якой ахвотна ездзім.

Адказаў чакаем два тыдні.

Адказ на лагагрыф з 47 н-ра: паляк, кніга, Вісла, матор, атава, шапка, смала, вядро. Назва месяца — лістапад.

Просьба да асоб, якія прысылаюць адгаданкі: не забывайце падаць сваё прозвішча і адрас!



 

# „МАЛАНКА” ГАСТРАЛЯВАЛА Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

На прадвесні гэтага года белавежскі праваднік Мечыслаў Пятроўскі запрасіў „Маланку” выступіць перад турыстычнай групай з Нямеччыны. Канцэрт у белавежскай „Іве” гасцям вельмі спадабаўся. Адным з іх быў Майк (Міхаэль) Піц, уласнік турыстычнай фірмы, яка арганізуе паездкі ў цікавыя сваёй прыродай мясціны на ўсім свеце. Яго кліенты могуць выбіраць турысцкія паходы па дзікіх рэках Паўночнай Амерыкі, „сафары” ў Афрыцы і скалалажанне па Гімалаях. Фірма прапануе таксама знаёмства з краінай над Нарвай — „польскай Амазоніяй”, дзе прыродны краявід маляўніча спалучаецца з праваслаўнымі цэрквамі.

Праз некалькі дзён пасля пабыўкі ў Белавежы, Майк Піц прыслаў пісьмо з просьбай аформіць прыезд „Маланкі” ў Нямеччыну па яго запрашэнню. Справу ўзяла ў свае рукі Малгажата Бушка, яшчэ студэнтка, але ўжо спрактыкаваны праваднік і перакладчыца. Арганізатарскія здольнасці, якія прытым яна праявіла, дазваляюць спадзявацца, што чакаюць яе поспехі ў турыстычнай справе.

І вось, у лістападзе „Маланка” выехала на 5 дзён у Нямеччыну (18-22. XI) як госця Майка Піца. Затрымаліся ў Бад-Эсэн — мясцовасці ў паўночнай Нямеччыне, непадалёк галандскай мяжы. Бад-Эсэн, як самая назва паказвае (г.зн. чыстая, здаровая ежа) — гэта курорт у вельмі экалагічна чыстай аколіцы.

„Маланка” дала тры канцэрты. Два першыя — у навакольных клініках рэабілітацыі (адну з іх вядзе Майк Піц супольна са сваім бацькам). Трэці, галоўны канцэрт, адбыўся ў Бад-Эсэн, у маёмасці гаспадара, у доме, у якім памяшчаецца ягонае турыстычнае бюро.

У вялікай зале, упрыгожанай памяткамі з самых розных краін свету: сувенірамі, чарапамі і рогамі ўпаляваных звяроў і нават індзейскім вігвамам, сабралася звыш ста гасцей з усёй Нямеччыны. Былі гэта сябры і супрацоўнікі гаспадара, з якімі праводзіў ён свае шматлікія паходы.

Пасля абеду і супольнага аглядання слайдаў, спалучанага з успамінамі, каментарыямі і дыскусіямі, ужо позним вечарам са сваёй праграмай выступіла „Маланка”. Перад канцэртам гаспадар у некалькіх словах расказаў сваім гасцям, змест песень: пра любоў, пра жыццё. І гэтага хапіла. Публіка цудоўна ўспрыняла песні, ловячы іх сэнс з жэстаў і мімікі артыстаў ды самой мелодыі. Як заўважыў кіраўнік „Маланкі”, Сяргей Лукашук, нашая публіка, хаця разумее словы, больш халодная ва ўспрыманні выступленняў за



нямецкую. „Маланка” ўцягнула гасцей у супольную забаву, вучачы іх танцаваць кадрыльку, лявоніху, і нават, на іхняе пажаданне, казачка. Аказваецца, немцы ўмеюць гуляць і цешыцца жыццём (падобна было і на ранейшых канцэртах — на адным з іх публіка тройчы выклікала калектыў на сцэну). Такім чынам мастацкая праграма выезду завяршылася поўным поспехам.

Падчас пабыўкі ў Бад-Эсэн знайшоўся таксама час на турыстыку і для сяброў „Маланкі”. Згодна з сусветнай модай, маглі яны паглядзець у наваколлі сляды дыназаўраў стамільёнагадовай даўнасці.

Майк Піц сам адвозіў „Маланку” на сваім міні-аўтобусе на польскую мяжу. Падчас доўгага падарожжа праз усю Нямеччыну, затрымаўшыся на адпачынак, расказаў пра ўражанні сваіх сяброў і падзяліўся сваімі думкамі. Пахваліў ён высокі мастацкі ўзровень „Маланкі”. Паводле яго, калі б гэтым занялося нейкае канцэртнае агенцтва, ансамбль мог бы выступаць па ўсёй Еўропе. Пакуль што, адзін з яго гасцей, які арганізуе падобныя канцэрты, мае намер запрасіць „Маланку”.

Але самае важнае, што сказаў Майк Піц, заключаецца ў іншым. Ён наведаў паўсвету, пабываў у многіх краінах і сустракаўся з самымі разнастайнымі культурамі. І вось цешыцца, што падчас пабыўкі ў Белавежы яму пашанцавала сустрэцца з „Маланкай”, якая культывуе беларускую традыцыю. Ва ўсёй Еўропе зніштажаюцца нацыянальныя меншасці і знікае мясцовая народная культура. Гэта яго вельмі хвалюе. Ён баіцца за будучыню Захаду. Яго паходы — гэта на самай справе „школа выжывання” на выпадак цяжкіх часоў, дык наогул ён думае пераехаць жыць з сям’ёй на Грэнландыю. Апошнім сваім сказам Майк усхваляваў усю „Маланку”. „Помніце, — сказаў, — калі дрэву падрэзаць карэнне, лісце засохне”.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

## АБ’ЯВА

Танна прадам кнігазбор класікі рускай літаратуры. Харошча, тэл. 191-558 (званіць пасля 16 гадз.).

# „НОВАЯ ЗЯМЛЯ” — НАДАЛЕЙ ЖЫВАЯ ПАЭМА

Да нядаўняга часу газета для суайчыннікаў за межамі бацькаўшчыны „Голас Радзімы” была даступнай і на Беласточчыне — цяпер сітуацыя змянілася і гэтае выданне рэдкім госцем у нас. Я аднак атрымліваю газету рэгулярна ды хачу падзяліцца з чытачамі „Нівы” адной тэмай, якая датычыць 70-годдзя „Новай зямлі” Якуба Коласа.

Аўтарам нарыса „Песня песняў беларускага народа” (35-ты нумар газеты) з’яўлянцца Генадзь Кісялёў. Нарыс велізарны і я хачу вылучыць з яго толькі некаторыя фрагменты.

Усім хіба вядома, што палякі ганарацца паэмай Адама Міцкевіча „Пан Тадэвуш”, рускія ж — паэмай Аляксандра Пушкіна „Яўгеній Анегін”, бо гэта сапраўды ўнікальныя творы, якія перакладаюцца на шматлікія мовы свету. А што з паэмай нашага класіка Якуба Коласа? Генадзь Кісялёў сцвярджае наступнае: сёння гэту паэму параўноўваюць з „Панам Тадэвушам” і „Яўгеніем Анегіным”, называюць найвялікшай кнігай у беларускай паэзіі і адной з самых унікальных кніг у сусветнай паэзіі. Важна падкрэсліць самабытнасць і глыбінную народнасць „Новай зямлі”. Што ні кажы, але „Яўгеній Анегін” і „Пан Тадэвуш” (дарэчы, таксама з беларускага жыцця) ахаплівалі толькі верхнія пласты грамадства. Якуб Колас напісаў сваю паэму на аснове свайго і сваёй сям’і жыцця. У цэнтры паэмы, піша Г. Кісялёў, ляснік Міхал (бацька паэта), выгнаны зямельнай цеснатой з роднай вёскі, вымушаны служыць у князёў Радзівілаў, у вечнай залежнасці ад паноў і падпанкаў, заўжды на пабягушках у незлічоных службоўцаў княжацкай адміністрацыі. Чалавек з разбітым пачуццём сваёй годнасці, Міхал, марыў пра свабоду, якую па-сялянскаму ўяўляў у выглядзе лапіка сваёй зямлі.

У паэме Якуба Коласа няма ні фантазіі, ні выдуманых герояў — усё абаперта на рэальных падзеях. Бацька Якуба Коласа, Міхал, не дажыў здзяйснення сваёй мары — уласнага кавалка зямлі не дачакаліся і беларускія сяляне. Бальшавіцкі ўрад БССР крывым вокам глядзеў на паэму „Новая зямля”, маўляў, як гэта можа быць, каб селянін меў свой кавалак зямлі і багацеў? Але, вось бальшавізм адышоў, а паэма Я. Коласа надалей засталася жывой, не страціла сваёй сілы і вартасці.

**М. ПАНФІЛЮК**




*МІРА ЛУКША*

**СМЕРЦЬ ПАЭТА**

У кожнага паэта свой Дантэс.
Сухоты руйнавалі іх, сляпая куля.
Сёння ляк пасвпаліць альбо чорны жах.
На сэрца мяккае ўзваленыя краты.
Смяртэльны самазабойчы славацёк.

* * *

сон расплюшчыў у табе вочы
дрэва агню вады заранкі
нарадзіўся камень шэрая зязюля

* * *

ў самотную месячную поўнач
ў гулкім пакоі за збялелымі сценамі
фармуеш возера пяском гарачых рук

*БАРЫС РУСКО*

**У ДОБРЫ ЧАС**

Моц словам у глушы ружавее,
каб раптам спаймаць крылаў сто
і зблеклай абалонкі край
маланкай несці ў бакі.
А ў родным доме дзверы насцеж,
ківае бацька: „У добры час!”
Няхай сяўба са жмені ўзыдзе,
як златавусты званоў тон.

**ЦІКУЮЧЫЯ ГАДЗІННІКІ**

Цікуюць гадзіннікі ў быце нябыту.
Самазаводныя.
Не.
Заводныя.
Не.
Цікуюць гадзіннікі ў застылым суме
усмешкі.
Жывыя.
Не.
Мёртвыя.
Не.
Цікуюць гадзіннікі ў халоднай
прасторы вачэй.
Мокрыя.
Не.
Сухія.
Не.
Цікуюць гадзіннікі на дне
непрысутнасці.
Ціхія.
Не.
Шумныя.
Не.
Цікуючыя гадзіннікі чакаюць удару
гонга.

*ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ*

**РОЗДУМЫ НАД ГАНГАМ**

Узбудзі, Ганг, мелодыю песні,
Дзесь схаваную ў сэрцы маім,
А памершая муза, уваскрэсні,
Зазвіні мне акордам жывым.

Заспявай, каб іх гукі ляцелі
Да маіх беларускіх палей.
Разбудзі ўсіх пад снежнай пасцеллю,
Каб было ім зімой весялей.

Заспявай ім над лесам сасновым
І пацеш іх: вось хутка вясна!
І зімовыя трэснуць аковы,
І цяплей будзе ўсім без віна.

Хай чакаюць яны перамены,
Бо за цемрай ідзе ўжо святло.
Морак ім на вясёлку заменіць,
А халодны павеў — на цяпло.

І не будуць зімовыя ветры
Больш трасці ім без лісцяў галін
І ў халодным і ў цяжкім паветры
Не заразіць іх спячкаю сплін.

Каб пачуліся вольнымі ўсюды,
Не баяліся больш бізуна.
Бо ўсе знаюць, што гэта не цуды,
Як зіму выганяе вясна.

*Варанасі, студзень 1988 г.*

*УЛАДЗІМІР САЎЧУК*

* * *

Расце тут вяз, засеяны ў дубраве.
Маці казала: Помні, сыне,
твой родны дом ёсць у Кузаве,
а ты ў мяне сынок адзіны.
Мае сябры усе ў Варшаве,
а я рассохся, як чыгун,
сярод чужых душой, а ў слове
застаўся голы як бізун.
Думаў, звязаць яшчэ магчыма
нават шнурком сваё жыццё,
а гусляром стаў успамінаў
у беларускі родны сход.

*РОБЕРТ ЗУЛЬЧЫК*

* * *

Нядобра беларусу жыць.
Усё ідзе не ў лад.
Расея ўсё нам верашчыць:
„Вярніцеся назад!”

Хацеў быць панам свае хаты,
Пад Воршай даў „сястры” шах-мат.
Суседка зноў крычыць заўзята:
„Ідзі назад!”

Кепская жытка ў Белай Русі.
Усё у ёй ідзе не ў лад.
Няўжо мы думаць усе мусім:
Ці самастойны наш урад?..

Пазняк тут выйшлі і Статкевіч,
На ногі паднялі народ.
І новы заклік ўжо даспелы:
„Ідзем разам уперад!”

# ВЫБРАННІК БОЖЫ — СВ. СЕРАФІМ З САРОВА

Ад смерці Св. Серафіма з Сарова мінула ўжо звыш паўтары стагоддзя, усё ж памяць аб ім жыве сярод праваслаўных. Гэты просты, убогі стары, вядучы з патрэбы духа аскетычнае, пустэльніцкае жыццё, у свае дні быў вядомы і шанаваны амаль усімі жыхарамі Расейскай імперыі. Яшчэ пры жыцці лічылі яго святым. Яго келлю-пустэльню наведвалі натоўпы людзей — ад бедакоў па ўсевядомых арыстакратаў. Кожны з наведвальнікаў да канца сваіх зямных дзён аставаўся пад уражаннем гэтай сустрэчы. Парады а. Серафіма характарызаваліся вельмі спелай і глыбокай жыццёвай мудрасцю. Серафім, як ніхто іншы, дасканала разумеў гэты свет, поўны сумненняў, памылак, пажадлівасці і ўсялякага няшчасця. Валодаў ён вялікім дарам слова. Патрапіў пацешыць і падмацаваць нават найбольш засмучанага чалавека. Больш! — сваімі парадамі даваў яму ўказанні на ўсё жыццё.

Св. Серафім нарадзіўся ноччу з 19 на 20 ліпеня 1759 г. у Курску, як другое дзіця ў вядомай з пабожнасці сям'і купцоў Агафіі і Ісідара Мошніных. Бацькі ахрысцілі яго Прохарам. Калі хлапцу споўнілася 3 гады, памёр бацька. Адгэтуль цяжар выхоўвання ўсклаўся на плечы маці. У сямігадовым узросце Прохар першы раз у жыцці сутыкнуўся з праявай асаблівай Божай ласкі да яго асобы. Падаючы з высокай званіцы, захаваў жыццё, нават не меў ніякага цялеснага пакалечання. Навуку пачаў ва ўзросце 10 гадоў. Вельмі прыгожа чытаў і пісаў, але неўзабаве моцна захварэў. Падчас хваробы з'явілася яму ў сне Божая Маці, абяцаючы, што ён хутка выздаравее. І гэтак сталася. Прохар з асаблівай увагай чытаў Святое Пісанне і літургічныя кніжкі. Рэгулярна хадзіў у царкву на набажэнствы, часта маліўся. Не ў галаве яму былі гульні з равеснікамі. У 18 гадоў вырашыў паступіць у манастыр. Маці, паблаславіўшы выбар сына, ахвяравала яму на дарогу медны крыж, з якім Прохар не расставаўся да канца сваіх дзён. З групай пілігрымаў трапіў ён у Кіеў, дзе сустрэўся са схімнікам Дасіфеем, які накіраваў яго ў манастыр у Сарове. Але Прохар вярнуўся яшчэ дамоў, каб дапамагчы старэйшаму брату Аляксею весці гандлёвыя справы. У дзверы манастыра пастукаў 20 лістапада 1778 г. Прыняў яго тут ягоны зямляк, ігумен Пахомій. Прохар у першыя гады выконваў розныя працы — выпякаў хлеб, просфары, працаваў у сталярні. У свабодны ад працы час чытаў Святое Пісанне і маліўся. Найахвотней рабіў гэта ў лясным зацішшы, здалёк ад манастыра. У 1780 г. цяжка захварэў. У сне зноў з'явілася яму Божая Маці. І на гэты раз Прохар хутка паздаравеў.

13 снежня 1786 г. П. Мошнін склаў манаскія абяцанні і атрымаў новае імя — Серафім. У наступным годзе яго пасвяцілі ў іерадыяканы. Падчас чарговага бачання (у Вялікі Чацвер) сустрэў самога Ісуса Хрыста ў акружэнні многіх арханёлаў і анёлаў. 2 верасня 1793 г. тамбоўскі епіскап Феафіл высвяціў а. Серафіма на свяшчэнніка-іераманаха. 20 лістапада 1794 г. Серафім падаўся ў пустэльню над рэчкай Сароўкай, у пяці кіламетрах ад манастыра. Жыў у поўнай адзіноце. Сам сабе рыхтаваў дровы, сам паліў у печы, сам вёў сваю гаспадарку. Летам закладваў агарод. Угнойваў яго мохам, які прыносіў з багнаў. Спачатку харчаваўся самым чэрствым хлебам, якім дзяліўся з лясной звярынай, з якой адначасова размаўляў і якая, здавалася, яго разумела. Пасябраваў а. Серафім і з вялікім мядзведзем, які ў выпадковых назіральнікаў выклікаў жах. Пустэльнік ніколі не адганяў мух, камароў ці іншых дакучлівых насякомых, нягледзячы на тое, што вельмі цярпеў ад іх. У пазнейшы перыяд а. Серафім уключыў у свае меню снітку. У сераду і пятніцу зусім нічога не еў. Перад нядзелямі і святамі ішоў у манастыр на набажэнствы. Апранаўся ў палатняную капоту. На ногі абуваў лапці, а на галаву надзяваў зношаную камілаўку. На плячах насіў торбу, а ў ёй абавязкова Евангелле.

12 верасня 1804 г. на а. Серафіма, які працаваў у лесе, напалі тры мужчыны, патрабуючы грошай, якіх той, вядома, не меў. Пустэльнік меў у руках тапор і мог бараніцца, але не ўчыніў гэтага. Злачынцы моцна пабілі а. Серафіма, паламалі яму рэбры і пашкодзілі грудзі, так што пасля гэтага ўсё жыццё аставаўся ён згорбленым і быў вымушаны абапірацца на палачку. Неўзабаве бандытаў злавілі, але а. Серафім выпрасіў ва ўладаў памілаванне ім і свабоду.

Аднойчы а. Серафім натрапіў у лесе на вялікі валун. Вырашыў, што будзе гаварыць на ім малітвы тысячу дзён і начэй. Ад працяглага стаяння на каленях на камені занядужаў на ногі і быў вымушаны падацца ў манастыр. Там вырашыў весці жыццё моўчкі і вытрымаў тры гады. У маі 1810 г. а. Серафім распачаў яшчэ больш цяжкае практыкаванне — жыццё ў ізаляцыі. Пасяліўся ён у маленькай манастырскай келлі з двума аконцамі, з якіх відаць было яр. У вугалку вісела ікона Божай Маці „Узрушэнне", перад якой пастаянна палілася лампадка. У келлі не было пасцелі. Харчаваўся ежай з аўсянай мукі і пасечанай капусты. У нядзелі і святы прымаў Святыя Дары, якія яму прыносілі ў келлю. У адасабненні, у якім вытрымаў 15 гадоў, нікога не прымаў.

25 лістапада 1825 г. у сне з'явілася яму Божая Маці, якая патрабавала ад яго спыніць жыццё ў адасабненні і пачаць служыць людзям. Адгэтуль дзверы келлі а. Серафіма былі адчынены кожнаму, хто патрабаваў ягонай дапамогі. Прымаў людзей удзень і ноччу. Калі адпачываў, ніхто не ведаў. Таксама ніхто не бачыў яго засмучаным ці змучаным. Усіх, бедных і багатых, прымаў з аднолькавай радасцю, кланяючыся кожнаму ў ногі. Вітаў словамі: „Хрыстос уваскрос, радасці ты мая...". Часта здаралася, што а. Серафім аздараўляў хворых, нават не пытаючы іх пра хваробу. Да незнаёмых яму людзей звяртаўся па імені. Валодаў дарам яснабачання. Ведаў, пра што пісалі яму ў лістах, не чытаючы іх. Для кожнага чалавека меў словы парады і суцяшэння.

Праз некалькі гадоў а. Серафім пачаў выходзіць з келлі ў лес. Падчас аднаго шпацыру з'явлася яму Божая Маці з апосталамі Пятром і Янам. Божая Маці стукнула палкай аб зямлю і ў гэтым месцы паявілася крынічка, з якой вада, як потым выявілася, мела аздараўляльныя ўласцівасці. Апошні раз Божая Маці з'явілася а. Серафіму 25 сакавіка 1832 г. Сведкам і ўдзельнікам гэтага здарэння была манашка Еўпраксія з Дзівееўскага манастыра. Божая Маці доўга размаўляла з а. Серафімам, а на заканчэнне сказала яму, што неўзабаве будуць бачыць яго ў Бога. Айцец Серафім памёр 2 студзеня 1833 г. На яго магіле паставілі дошку з надпісам „Жыў на славу Божу", які верна аддае ісціну жыцця гэтага чалавека. Магілу а. Серафіма доўгімі гадамі наведвалі натоўпы людзей. Зрэшты, прасіў аб гэтым сам пустэльнік у сваім завяшчанні. Ён і пасля смерці здзяйсняў цудоўныя аздараўленні і даваў духовую падтрымку.

70 гадоў пасля смерці а. Серафіма кананізавалі. Урачыстасць гэтая, у якой удзельнічаў цар Мікалай II з жонкай, адбылася ў палове ліпеня 1903 г.

У 1920 г. камуністычныя ўлады прафанавалі астанкі а. Серафіма, якія былі складзены ў раку і захоўваліся ва Успенскім саборы Сароўскага манастыра. Пасля 1923 г. рака была канфіскавана. Астанкі Св. Серафіма трапілі спярша ў Данскі манастыр у Маскве, а потым у Казанскі сабор у Ленінградзе, у якім арганізавалі атэістычны музей. Там яны захоўваліся да 1991 г. У ліпені таго ж года іх урачыста перанеслі ў Дзівеева ў Ніжняноўгарадскай зямлі.

Св. Серафім быў сапраўдным духовым праваднікам сучасных яму людзей. Нягледзячы на тое, што не пакінуў ён па сабе ніякіх пісанняў, ягоная навука аб веры і хрысціянскай маральнасці не загінула. Запісалі яе на падставе захаваных у людской памяці размоваў са святым пустэльнікам. Найвыдатнейшыя тэолагі акрэслілі св. Серафіма стваральнікам новага перыяду ў гісторыі расейскай тэалагічнай думкі. Яго навучанне мае вечную вартасць.

**ПЁТР БАЙКО**

# ПРАПАДОБНЫ САВА АСВЕЧАНЫ

Святы Сава паходзіў з Кесарыі — галоўнага горада правінцыі Кападокія, якая знаходзілася ва ўсходняй частцы Малой Азіі (сённяшняя Турцыя). У пяцігадовым узросце пераехаў ён з бацькамі ў Александрыю па прычыне вайсковых абавязкаў бацькі, які быў высокім імператарскім афіцэрам. У Егіпце апынуўся ён пад апекай дзядзькі, матчынага брата. Цётка кепска адносілася да хлопчыка і той уцёк у суседнюю вёску да другога дзядзькі, бацькавага брата. Неўзабаве дзядзькі пачалі спрэчкі за тое, хто мае апекавацца малалеткам. Прычынай сварак былі не столькі клопаты пра Саву, колькі жаданне пакарыстацца немалой маёмасцю, якую бацька пакінуў пры ім. У сувязі з тым, што бацькі не вярталіся, хлопчык, які як на свае гады вылучаўся незвычайнай спеласцю розуму, пакінуў сваякоў і падаўся ў недалёкі манастыр. Святому Саву было тады восем гадоў. Намовы сваякоў вяртацца назад аказаліся безвыніковымі. У манастыры вучыўся ён чытаць псалтыр і знаёміўся з манаскім жыццём на працягу дзесяці гадоў. Потым падаўся ў Палесціну і папаў у манастыр, якім кіраваў Святы Яўфім Вялікі, і там апынуўся пад апекай прападобнага Феакціста. Святы Сава прабываў у ім аж да смерці свайго старца і настаўніка. Чарговых пяць гадоў правёў ён адзінока ў пячоры непадалёк манастыра. Заставаўся ў ёй на працягу пяці дзён у тыдні і ўвесь час маліўся, пасціў ды выплятаў кошыкі. У суботы і нядзелі ішоў ён у манастыр, там пакідаў уласнаручна зробленыя кашы, удзельнічаў у супольнай малітве і падмацоўваў сваё цела ежай. Вечарам у нядзелю зноў вяртаўся ў сваю пячору. Пасля смерці Яўфімія Святы Сава перанёсся ў іншую пячору, якая знаходзілася на беразе высахшага ручая. Калі ў наваколлі пасяліліся іншыя пустэльнікі, Прападобны вырашыў пабудаваць манастыр. Спраўляць Літургію прыходзілі спачатку свяшчэннікі з іншых мясцін, паколькі Святы Сава з-за пакоры не хацеў прыняць духоўнага сану. Аднак праз нейкі час быў ён рукапалажаны ў свяшчэнства і таму атрымаў названне „Асвечанага". Заснаваны ім манастыр існуе да сённяшняга дня і знаходзіцца на беразе рэчкі Кедрон недалёка Іерусаліма. Будучы настаяцелем манастыра, напісаў ён першы статут вядзення набажэнстваў, званы Іерусалімскім. Паводле традыцыі браў ён прыклад са статутаў, якімі да гэтага часу карысталіся іншыя манастыры. Святы Сава памёр у 532 годзе, а яго нятленныя мошчы захоўваюцца ў ягоным манастыры.

Памяць Прападобнага Савы Асвечанага ўшаноўваем 18 снежня (5.12 паводле ст. стылю).

**С. Н.**

*ФРАНЦІШАК ЛЯХОЦКІ*

**БЕЛАРУСКІ БЭТЛЕЕМ**

Не там радзіўся ён,
Дзе смуга Іардана:
Мілейшая яму
Палеская Пружана.

Не там упершыню
Заззялі яго слёзы
А тут, дзе бачыш клён
Ды вішні і бярозы.

Не там у гарадку
Давіда ён смяяўся,
У клуні ды ў кутку
Тут з беднымі збратаўся.

Над проламкай рачной
Рыбачылі сяляне,
Пабачылі ўначы
Зару, як маляванне.

Давай хутчэй дамоў
Дык чуюць, што калядку
Ўжо тут прыносіць люд
Марыі і Дзіцятку.

І магі з трох старон
Спяшаюць ў шатах новых
І з Белавежы — гэць —
І з Вільні дык са Львова.

Ягнячы кажушок,
Калысачку з лазіны
Ды льнянае радно
Прывозяць для Дзяціны

І „Слава ў вышыні
Для Бога" — тут спяванне —
„Для люду ж на зямлі
Ўжо мір цяпер настане"

*З польскай мовы пераклаў*
*СЭРАФІН КОРЧАК-МІХАЛЕЎСКІ*

*ДЗМІТРЫЙ ШАТЫЛОВІЧ*

**ГАЯ** [1]

Нас сустракае на пустой дарозе,
Як муравейнік, дзіўны гарадок.
Сухая рэчка на яго парозе
І доўгі мост вітаюць нас здалёк.

Дзесяткі храмаў за пялюшкай дыму
Выглядваюць між мурамі дамоў.
Праз іх праходзяць сотні пілігрымаў
З ахвярай „піндас" [2] для сваіх багоў.

Ахвяры з рук іх вызваляць іх продкаў
З няволі ўвасаблення на зямлі.
І душы іх у нябыцці салодкім
Дзесь расплывуцца, як імгла далін.

За рэчышчам сухім шырокай Фалгі [3]
Храм Вішнупад [4] блішчыць, як антрацыт,
З высокай вежай, з залацістым флагам
Зліваецца ў цудоўны каларыт.

Малых дзесяткі купалаў на даху,
З дзесяткамі калон, як гурт людзей
Сышоўся ў круг пад дзіўнаю папахай,
І захапляе, быццам чарадзей.

Там унутры ляжыць, як пад каронай,
Між пліт сярэбраных вялікі след.
То след ступні пад срэбным парасонам,
Адбіты богам Вішну [5] на скале.

Тут пілігрымы складваюць ахвяры,
Прыходзіць іх сюды за раццю рацць,
Спацелая ад сонечнага жару.
І звонку ў два званы ўвесь час звіняць.

Тут летам ім рака змывае плямы
(Яна тады выходзіць з берагоў).
Цяпер ідуць яны ў іншыя храмы
Аддаць ахвяры для другіх багоў.

А іх у Гаі некалькі дзесяткаў,
Каб перайсці ўвесь рытуальны круг.
І пілігрымы ў стоме, па парадку
Ідуць да кожных, быццам на ігру.

1) Гая — горад (300 тыс. жыхароў) — важны цэнтр індускіх пілігрымаў, другое па Варанасі святое месца. Індусы вераць, што калі пройдуць па ўсіх храмах і месцах, якіх тут больш паўсотні, і ахвяруюць багам „піндас", то іх продкі вызваляцца ад увасаблення.

2) піндас — пахавальнае пірожнае.

3) Фалгу — шырокая рака ля Гаі; поўна ў ёй вады ў час мусону, пасля высыхае.

4) Вішнупад — храм бога Вішну, у якім ёсць адбітак ступні бога Вішну на скале.

5) Вішну — адзін з галоўных багоў у індуізме. Прадстаўляюць яго ў кароне на галаве, сядзячага на лотасе, міфічнай птушцы Гарудзе ці на вужы Сешы, які плавае па акіяне. Вішну ўжо 9 разоў сыходзіў на зямлю і ўвасабляўся: 1) у рыбу, 2) у чарапаху, 3) у дзіка, 4) у паўчалавека і паўльва, 5) у карла, 6) у Раму, 7) у Раму-чудру, 8) у Крышну, 9) у Буду.

 

# ФАТУМ

Працяг са стар. 4

У сны Алесевы пачалі ўрывацца то бандыты-грабежнікі, то паны ў чорных капелюшах ды... з хвастамі. Зрываўся бегчы кудысьці спрасонку. Бандыты прыходзілі і патрабавалі ад яго грошай. Іншы раз цягнулі абрабаваць царкву з іконаў. Падышлі да храма, а тут званы азваліся апоўначы. Людзі пачалі збягацца. Вось такія сны-мучэнні. Жудасныя сны. Прачынаўся ўзмакрэлы ўвесь, збялелы.

З мужам Антаніны — як яна заўважала — пачалося дзеяцца нешта дзіўнае. Пойдзе працаваць у поле, дык усё ў неба заглядаецца. Жонцы перабівае. То паглядзі, якое неба высокае, ціхае. Вось там узабрацца і адтуль паглядзець на свет шырокі. Цягнула яго, клікала тая высь, тое неба. І супакою яму не давала. Уначы заглядаўся-паглядаў у зорнае, быццам з залацінкамі, неба.

З таго часу жонку пераймӑў жахлівы страх. Таіла яна яго ў сабе. Пільна сачыла за мужам, пільнавала. Узбуджанага, нечым знерваванага супакойвала, цягнула да сябе. Не забывала адлучыць ад бутэлькі. Дзе толькі не хавала, не выносіла недапітую або прыхаваную паўлітру!

Аднойчы муж недзе шмат выпіў. Не абышлося без скандалу ўдома. Алесь патрабаваў больш. Назаўтра тое самае. Маці і жонка не далі грошай, а яму б яны назарэз, на пахмелку.

Было ўжо так, што ішоў вешацца. Найперш бавіўся, насіў дзіця на руках. Малое паставіў на ножкі. Зайшоў у стадолу, узяў найлепшую вяроўку, закінуў за бэльку і закруціў за шыю. Усё на вачах дзіцяці, якое нічога не разумела. Жонка глянула ў акно, ды ажно закалацілася-захадзіла. Прыбегла, мужа адштурхнула, а тую вяроўку на малюсенькія кавалачкі парубала. Ох жа, з якім горамбядою прыйшлося ёй пакутаваць!.. Упільнаваць мужа не ўдалося. Ужо было колькі начэй не даспала. Звечара прылегла каля дзіцяці, каб хутчэй яно заснула. Здрамнула ды заснула моцна-моцна. Ужо стаяў дзень, калі прабудзілася. Раптам зглядзела: дзверы на падворак адкрыты. Выбегла: дзверы ў стадоле прыадкрыты, а за імі моцна-туга нацягнута звісае ўніз вяроўка (Алесь здаравенны быў мужчына, мажны). Муж быў нежывы. Стаяў, быццам моляючыся, на каленях, і глядзеў на пругмень, на свой дом.

Адзін боль Антаніне ўсяго крыху прыціх, прызабыўся, а тут нахлынула другая бяда. За ёй цікавала маці Алеся. Рыхтавала патайком ёй смерць. Жанчынай была яна помслівай. Прыпільнаваўшы сынавую з самой раніцы ля парніка, у якім варылі бульбу для свіней, знячэўку секанула яе ззаду сякерай. Калі нявестка ўжо ўпала, цешча без апамятання рубала яе па твары. Цудам маладая вырвалася, як кажуць, з абдымкаў кастухі. Наколькі была яшчэ свядома, апошнім рыўком сілы зваліла з ног старую. Сцякала крывёю, але дабралася неяк да суседзяў. Прыехала хуткая дапамога, пасля паліцыя. Лячылі яе ў адной бальніцы, затым у другой. Ёй наканавана было яшчэ жыць ды гадаваць дзетак-сіротак.

Маці Алеся знайшлі амаль без памяці на магіле мужа. Яна напілася нейкай атруты. Калі яе адратавалі, завезлі ў Харошчу. Адтуль, з дыягназам „старэчая апатыя", адпусцілі дадому. Прыехала з дачкой назад у сваю хату. Убачылі яе ўнучкі і ўнук, напалохаліся. На другі дзень мела яна з'ехаць адсюль. Заначавалі. Дачка заснула, а маці ў тую ж ноч улезла на гарышча і павесілася на электрычным кабелі. Гэты факт і завяршыў следства за ёю, якое вяла пракуратура. Ганну пахавалі там, дзе ўжо раней былі яе муж і сын.

Схадзіў я на могілкі (яны ў зацішку, на ўскраіне лесу). Глядзеў на ціхія крыжы. Над імі сумавалі бярозы. Высока ў небе сіратліва, паволі плылі воблакі.

Хадзіў я з думкамі сам-насам. Пра запісаныя імгненні. Імгненні... Ніхто не вымерае імі шлях, хоць менавіта з іх складаюцца дні, гады чалавечага жыцця, хоць менавіта яны вызначаюць усе павароты лёсу. Ды нярэдка і сам лёс. Фатум.

**ЯНКА ЗАРЭЧНЫ**
**фота з архіва**

P.S. Усё вышэйнапісанае здарылася ў сапраўднасці. Я змяніў толькі некаторыя імёны людзей — герояў гэтай трагедыі.

# НАВУКА І ПРАПАГАНДА

У лістападзе г.г. я меў нагоду прыняць удзел у двух канферэнцыях, з якіх кожная называлася навуковай. Першая адбылася ў Беластоку і прысвечана была польска-беларуска-літоўскім суадносінам у II Рэчыпаспалітай. Арганізатарамі яе былі Гістарычны інстытут Філіяла Варшаўскага універсітэта і Беластоцкае навуковае таварыства. Другую арганізаваў прафесар Томаш Стшэмбаш — дырэктар Інстытута палітычных даследаванняў Польскай акадэміі навук і таксама прысвечана яна была польска-беларуска-літоўскім адносінам, але ў гадах 1939-1941.

Розніца паміж першай і другой канферэнцыямі была больш-менш такая, як паміж прапагандай і навукай. Прапаганда характэрная тым, што імкнецца пераканаць адрасата да нейкай рацыі, прытым яе мэтай з'яўляецца не праўда, але выкліканне акрэсленага стану свядомасці. Навука, у адрозненні ад прапаганды, ставіць за мэту пошукі праўды, нягледзячы на тое, ці гэтая праўда можа быць камусьці прыкрай, карыснай, крыўднай ці кампраметуючай.

Ацаньваючы з гэтага пункту гледжання, можна рызыкаваць тэзіс, што Беласток доўга яшчэ не будзе мець сваіх вышэйшых навуковых установаў. Большасць тутэйшых навукоўцаў змагалася не за праўду, а за нейкія свае нацыянальныя ці рэлігійныя інтарэсы. Гэты актыўны падыход да навукі не дае надзеі, што Беласток калі-небудзь стане хаця б мясцовым цэнтрам у галіне грамадскіх навук.

Тэмы другой канферэнцыі былі куды больш спрэчнымі, аднак навуковы характар большасці дакладаў ствараў знакамітыя ўмовы да мерытарычнай, хаця і вострай, дыскусіі. Тое, што перш за ўсё мяне прыемна ўразіла падчас згаданага сімпозіума, гэта ўзровень выступленняў беларускіх гісторыкаў з Менска і Берасця. Тры гады памяркоўнай свабоды слова і навуковай дзейнасці давяло да ўзнікнення сапраўднай нацыянальнай беларускай гістарыяграфіі. Хаця ў Варшаве сабралася эліта польскіх гісторыкаў, беларусы перавышалі сваіх калегаў крыніцазнаўствам і іх крытычнай апрацоўкай. Даклад Аляксандра Хацкевіча пра сталінскія рэпрэсіі ў Заходняй Беларусі ў гадах 1939-1941, Тацяны Процька пра рэлігійную палітыку савецтаў у Беларусі ці Марыі Стужынскай пра беларускі антыбальшавіцкі рух былі перапоўненыя зусім супярэчнымі высновамі чым тыя, якія выступалі ў польскіх дакладчыкаў на гэтыя самыя тэмы. Наступіла тут канфрантацыя фактаў, якія маглі быць выяўлены толькі пасля адкрыцця архіваў савецкай палітычнай паліцыі і ў выніку тэзісаў, пабудаваных на падставе ўяўленняў, ацэначных дадзеных ці проста міфаў.

Выступленне прафесара Міхала Гнатоўскага з Беластока ўсхвалявала нават цярплівага арганізатара — прафесара Томаша Стшэмбаша. Прасіў ён госця з Беластока, каб урэшце вызначыўся, кім хоча быць: навукоўцам ці прапагандыстам. Прафесар Стшэмбаш не ведае, што ў Беластоку адно і другое ўспрымаецца як адно і тое ж самае.

Удзельнікаў канферэнцыі вельмі ўсхваляваў тэзіс Алега Латышонка, што Беларусь да 1939 г. мела двух акупантаў — Польшчу і Савецкую Расію, так прынамсі ўспрымалася тадышняя палітычная рэчаіснасць беларускімі палітыкамі. Прафесар Чэслаў Голуб, які савецка-акаўскае змаганне ў Беларусі хацеў бы бачыць беларуска-польскай канфрантацыяй, не мог адказаць на простае пытанне беларускага боку: калі беларусы былі ў савецкай партызанцы і адначасова ў акаўскай, то як акрэсліць, па якім баку яны змагаліся? У ніякім выпадку не змагаліся яны за беларускія інтарэсы, служылі Маскве або Варшаве.

Аказваецца, аднак, што нават найгоршую праўду, вядома, абгрунтаваную салiднымі доказамі ці аргументамі, палякі пасля дыскусіі маглі адобрыць і прызнаць рацыю беларусам.

Я пасля гэтай канферэнцыі дайшоў да вываду, што найгоршае ёсць маўчанне. Калі самі не даследуем і не пішам сваю гісторыю, напішуць яе за нас іншыя, але не трэба спадзявацца ад іх справядлівых ацэнак. Зусім інакш выглядае сітуацыя, калі нашы суседзі пішуць пра нашу гісторыю, але са свядомасцю, што мы яе таксама даследуем і прадстаўляем, толькі з іншага пункту гледжання.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ГОРАДЗЕ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

**Частка II**

Ад 27 да 29 кастрычніка 1993 года ў памяшканнях Полацкага універсітэта была праведзеная імпрэза пад назовам: „Навуковая канферэнцыя, прысвечаная 110 угодкам В. Ластоўскага".

Пленарнае пасяджэнне канферэнцыі адкрыла прамова рэктара Полацкага універсітэта прафесара Эрнста Бабенкі. Прамова была сказана на добрай беларускай мове, што было прыемным сюрпрызам у гэтым глыбока зрусіфікаваным горадзе.

На пленарным пасяджэнні былі прачытаны наступныя даклады:

— Анатоль Грыцкевіч — Вацлаў Ластоўскі як дзяржаўны дзяяч і палітык,

— Аляксандр Баршчэўскі — Постаць Вацлава Ластоўскага ў дакуменце Польскага генеральнага штаба „Krótki zarys zagadnienia białoruskiego",

— Леанід Лыч — Дзейнасць Вацлава Ластоўскага ў кантэксце беларускага нацыянальнага адраджэння,

— Уладзімір Конан — Эстэтычныя погляды Вацлава Ластоўскага,

— Юры Лабынцаў — Вацлаў Ластоўскі — гісторык беларускай духоўнай культуры.

Дваццаць восьмага кастрычніка Канферэнцыя праводзілася ў секцыях:

— Грамадская дзейнасць і гістарычная спадчына,

— Ластоўскі як мовазнавец,

— Ластоўскі як пісьменнік і літаратуразнавец.

На канферэнцыі было прачытаных каля сарака дакладаў, якія ахапілі ўсе сферы жыцця і дзейнасці Вацлава Ластоўскага. Апрача гэтага, у дыскусіі бралі ўдзел дзесяткі вучоных і дзеячоў. Была гэта грандыёзная навуковая імпрэза, якая прыцягнула вучоных не толькі з Беларусі, але таксама з Расіі, Літвы і Польшчы.

Можа ўзнікнуць пытанне, чаму канферэнцыя набыла аж такі размах? Адказ на гэтае пытанне просты: Вацлаў Ластоўскі быў выдатным беларускім гісторыкам, мовазнаўцам, літаратуразнаўцам, пісьменнікам, этнографам і палітыкам. Па размаху і разнароднасці свайго універсалізму Вацлаў Ластоўскі не мае сабе роўных у Беларусі перыяду 1906-1930 гадоў.

Інтэлектуальная выключнасць Ластоўскага здзіўляе тым больш, калі ўзяць пад увагу тое, што не набыў ён адукацыі ў ніякай вышэйшай установе і што велізарныя веды здабыў шляхам самаадукацыі.

Ластоўскі быў адным са стваральнікаў нашаніўскай эпохі. Працаваў у „Нашай ніве" і напісаў у 1910 годзе першы падручнік па гісторыі Беларусі. У пазнейшыя часы падрыхтаваў і выдаў фундаментальную „Гісторыю крыўскай кнігі" і „Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік". Апрача гэтага Ластоўскі рэдагаваў газету „Гоман" (1916-1917) і часопіс „Крывіч" (1923-1927).

Вацлаў Ластоўскі быў адным са стваральнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі і прэм'ер-міністрам гэтай дзяржавы. Калі ў 1920 годзе ў выніку польскай і рускай экспансій урад БНР не мог дзейнічаць на тэрыторыі Беларусі, Ластоўскі на чале беларускага ўрада пераехаў у Коўню, дзе аж да 1926 года кіраваў эміграцыйным кабінетам міністраў. У 1920 годзе В. Ластоўскі прыехаў у Менск на навуковую канферэнцыю. Улады БССР запрапанавалі яму астацца ў Беларусі. Ластоўскі скарыстаў з прапановы і такім чынам пайшоў у бок згубы.

Пачаткова працаваў ён дырэктарам музея, а пасля быў неадменным сакратаром Беларускай акадэміі навук. У 1930 годзе быў арыштаваны, асуджаны і сасланы ў Саратаў. У другой палове трыццатых гадоў быў паўторна пастаўлены перад судом і засуджаны на смерць. Загінуў у 1938 годзе. На многа гадоў былі да яго прозвішча прыклеены ярлыкі „буржуазнага нацыяналіста" і „ворага народа". Вацлаў Ластоўскі прапаў з падручнікаў, з даведнікаў, слоўнікаў і бібліяграфій. Пачынаючы з 1930 года, на працягу шасцідзесяці гадоў яго прозвішча або не ўпаміналася ўвогуле, або ўжывалася ў найгоршым кантэксце. Дзякуючы заядлай прапагандзе, Ластоўскі — гонар нацыі — быў прадстаўлены як ганьба беларускага народа.

Мэта канферэнцыі ў Полацку заключалася якраз у тым, каб вярнуць беларускай навуцы, культуры і беларускай нацыянальнай памяці выдатную асобу Ластоўскага.

Усе дакладчыкі падкрэслівалі выключнасць Ластоўскага як палітыка, вучонага і пісьменніка. Гэтая выключнасць была таксама падкрэслена мною, а праявілася яна між іншым у тым, што ў дакуменце: „Krótki zarys zagadnienia białoruskiego" прозвішча Ластоўскага паўтараецца аж 39 разоў, а апісанні яго асобы займаюць некалькі дзесяткаў старонак, хаця польскі аўтар займаецца ім выключна як палітыкам.

Арышт, смяротны прыгавор і заўчасная смерць выдатнага сына беларускага народа — Вацлава Ластоўскага — гэта ганьба, якая назаўсёды застанецца чорнай плямай на гісторыі Беларусі. Такая думка нярэдка або непасрэдна выступала ва ўсіх дакладах, прадстаўленых на канферэнцыі ў Полацку.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**



 

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# ГАРБУЗ ЛЕЧЫЦЬ АД ГЛІСТОЎ

Як не дзіўна, наш найзвычайнейшы гарбуз (па-вучонаму *Cucurbita pepo* L.) паходзіць з трапічных раёнаў Амерыкі, а галоўным чынам з Мексікі. Сёння яго вырошчваюць і ў Польшчы, і ў многіх іншых краінах.

Сцябло гарбуза даходзіць да 10 метраў даўжыні, яно ляжыць на зямлі або за нешта чапляецца сваімі шматлікімі разгалінаванымі вусамі. Лісце гарбуза вялікае, кветкі — таксама, яны жоўтага колеру, прамяністыя. Плод — вялікі, круглы ці прадаўгаваты дыяметрам да 40 сантыметраў. Семя, якое знаходзіцца ў сярэдзіне гарбуза, — даўжыні 7—15 мм, авальнае. Як плод, так і семя ядуць.

Гарбуз часта садзяць дзеля яго пладоў, з якіх робяць марынады і джэмы, а таксама розныя стравы. Трэба ведаць, што ў гарбузе ёсць шмат вугляводаў, бялкоў, а таксама караціну, які з'яўляецца правітамінам А.

У медыцыне выкарыстоўваецца свежае семя гарбуза, без насенных лупін (*Semen Cucurbitae*), а таксама высушанае семя без лупін.

Свежае, не прасушанае яшчэ семя гарбуза з'яўляецца здаўна вядомым у народнай медыцыне сродкам ад глістоў, хаця зусім нядаўна сцверджана, што актыўнымі спалучэннямі з'яўляюцца тут кукурбітацыны. Гэтыя субстанцыі лёгка пранікаюць у цела паразітаў і знішчаюць іх нервовую сістэму. Адначасова яны не таксічныя для чалавека, паколькі не ўпітваюцца ў страўнікавым тракце і не падражняюць слізістую абалонку.

Расцертае свежае семя гарбуза лечыць ад розных паразітаў страўнікавага тракта, а нават і саліцёра ў дзяцей і дарослых. Не сцверджана ніякае негатыўнае ўздзеянне семені. Найцяжэй атрымаць патрэбную колькасць семені з разрэзанага гарбуза.

Свежае або высушанае вылушчанае семя, якое спажываем цэлым, а таксама водныя яго экстракты карысна ўплываюць на механізм выдзялення мачы. У дарослых назіраецца павелічэнне сутачнай колькасці мачы і радзейшае начное мачэнне.

### СЕМЯ ГАРБУЗА СУПРАЦЬ САЛІЦЁРА

Расцерці з вадой ці малаком або змалоць у міксеры 150—250 г свежага семені гарбуза без лупін і дадаць па смаку фруктовага сіропу ці мёду. Павінна атрымацца густая маса. Падзяліць гэту порцыю на дзве часткі і прыняць раніцай нашча ў дзвюх порцыях з паўгадзінным перапынкам. Праз 2—3 гадзіны выпіць 2 сталовыя лыжкі (30 г) рыцыны ў якасці прачышчаючага сродка. Дзецям, у залежнасці ад узросту, даваць па 30—100 г семені, расцертага як вышэй, нашча ў дзвюх порцыях з паўгадзінным перапынкам, а праз 2—3 гадзіны — 1-2 чайныя лыжачкі рыцыны (паводле ўзросту дзіцяці). Калі трэба, лячэнне можна паўтарыць праз 2—3 дні.

### СУШАНАЕ СЕМЯ ГАРБУЗА

Прымаць па адной лыжачцы вылушчанага семені 1—3 разы ў дзень цыкламі па 14 дзён з перапынкамі па 5 дзён пры зменшаным выдзяленні мачы. Карысна міксаваць семя ў малацэ ці нейкім напітку.

### FUGITENE

Fugitene — гэта французскае лякарства, стабілізаваны экстракт семені гарбуза для малых дзяцей і дарослых, сродак супраць саліцёра і іншых кішэчных паразітаў. Прымаюць лякарства раніцай, а праз 4 гадзіны ў якасці прачышчаючага сродка. Гэта сродак без ніякага шкоднага ўздзеяння.

**ЭСКУЛАП**

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 1. высмейванне чаго-небудзь, 3. памінкі, 5. штучнае валакно, 7. невялікі стажок, 9. павучанне, 10. прамова павучальнага зместу, 11. саюз арганізацый, 12. старая жанчына, 14. адход пры веянні, 16. яд, 17. сталіца Кубы.

**Вертыкальна:** 1. чорна-белая зладзейка, 2. вадаём, 3. крэсла манарха, 4. прычына, 6. жартаўлівыя выразы (мн. л.), 8. загана, 9. вырэзванне ўзораў на цвёрдых матэрыялах, 11. ядавітая расліна з жоўтымі кветкамі, 13. сельскагаспадарчая прылада, 14. пахучая расліна, 15. ніжняя канечнасць.

(Ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 44 н-ра:**

**Гарызантальна:** кіно, шэраг, рэлікт, стог, чэрап, армяне, прыёмная, краса, акустыка, перамога, Дзяды, эвалюцыя, мастак, язмін, ірыс, плакат, ілгун, Адам.

**Вертыкальна:** шэдэўр, калапс, іхтыёлаг, орган, племя, акант, прадмова, рапсодыя, Кіпр, Акра, дыня, чары, калюжына, зязюля, дзікун, марля, этыка, Акіта.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Лукаш Пацэвіч і Аляксандр Дабчынскі з Беластока.**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Прысніўся мне страшны сон. Быццам выходжу я на прыпынку з аўтобуса. Іду ў краму, хачу зрабіць нейкія пакупкі. Але ж раптам бачу, што па вуліцы (адной з цэнтральных вуліц Беластока) ходзяць надта дзіўныя птахі. Спачатку я іх не баялася, а толькі зацікавілася імі, бо я такіх яшчэ ніколі не бачыла: нібы нейкія паўліны, нібы страўсы, нібы індыкі, а кожны птах іншы. Усе яны нязвыклай прыгажосці: у кожнага іншае пер'е, нейкае аздобнае, пры горле іншае, далей — іншае. Птушкі ўсе высокія, пер'е цёмных колераў. І ходзяць яны сабе пасярэдзіне вуліцы, не баючыся ніякіх самаходаў. Зрэшты, самаходаў і не відаць.

Нягледзячы на прыгажосць птахаў, я іх пачынаю баяцца. Ходзяць, спаглядаюць на мяне грозна, і па маім целе пайшлі дрыжыкі.

Я зайшла ў адну краму, выйшла, а тут ізноў гэтыя вялізныя птушкі (іх было штук пяць). Іду далей, думаю: зраблю пакупкі ў іншай краме. Прайшла цэлы квартал, гляджу — а тыя птушкі і тут гуляюць. Таксама пасярэдзіне вуліцы. Агортвае мяне дзікі страх. Там жа вунь маленькія дзеці. Што будзе, калі такое птушыдла падыдзе і дзяўбне дзіця?! Дзеці былі на другім баку вуліцы, і я не адважылася перайсці туды, каб ратаваць іх.

Са страху ўцякаю ў краму і захлопваю дзверы. Страх праследуе мяне і, калі нейкая жанчына ўваходзіць у краму, я крычу: „Хутчэй зачыняйце дзверы! Там жа гэтыя птушкі!”. Вельмі непакоюся, што будзе.

**Варвара**

Даражэнькая Варвара! Ты трапіла ў кепскі круг людзей. На вока яны прыгожыя і гладкія, але ў сярэдзіне зусім іншыя. Ты ў небяспецы, бо нешта кепскае яны табе рыхтуюць.

**АСТРОН**

# ДЗЕЦІ Ў АМЕРЫЦЫ

Андрэй з Анютай часта сабе паўтаралі і рэалізавалі такі план: каб іх дзеці пакончылі добрыя школы і мелі дзе жыць. Паставілі дзецям прыгожыя дамы.

— У горадзе жыць добра. Дамы мы там дзецям паставілі, бо ў вёску чаго вяртацца...

Сыны закончылі універсітэт, пажаніліся, пасяліліся ў новых дамах.

— Мала зарабляем, — наракалі. — Трэба будзе з'ездзіць у Амерыку. Вернемся панамі...

Першы ў Штаты паехаў Косця. Неяк там удалося яму ўладкавацца на працу, паклікаў Дарафея. Праз два гады забралі да сябе сем'і.

— Не едзьце, — прасілі старыя. — Ці вам тут кепска? Дамы маеце, працу... Толькі хоць тых долараў не распускайце, не выдавайце на абы-што, то ўсё будзе добра...

— Там нам будзе лепш, — упарціліся нявесткі.

Перад ад'ездам пусцілі ў свае хаты кватарантаў. Грошы з найму мелі забіраць старыя і класці на ашчадную кніжку.

Прайшло пяць гадоў. Памёр Андрэй. Дзеці не змаглі прыехаць на пахаванне. Напісалі, што не мелі за што купіць білеты дамоў. Праз два гады паехала Анюта за акіян наведаць дзяцей.

— Божа мой! — заламала рукі, убачыўшы, як яны жывуць. — У Польшчы такія дамы пакінулі, а тут жывеце як жабракі?! Нават ложкаў няма ў вашых клетках куды паставіць?! Хто бачыў, спаць на падлозе?! А есці такое, як вы, як вы можаце?

І сыны, і нявесткі, працавалі, але зараблялі вельмі мала. Грошай жанок хапала заплаціць за школу дзецям, мужаў — на аплату кватэр, харчы, вопратку, на ўсё самае неабходнае.

— Раз-два, вяртайцеся дадому! — рашыла маці.

— Не, не вернемся. Мусім жа чагосьці дарабіцца!

— То ж столькі тут жывяце, і нічога ў вас няма! А калі я памру, то каму нашы кватаранты грошы даваць будуць? Прападуць такія дамы! На што мы з бацькам нябожчыкам так працавалі, гаравалі?

— Мама, у Польшчы цяпер з працай цяжка. З чаго будзем жыць? А тут ужо неяк зачапіліся... Можа, будзе лепш...

Вярнулася Анюта дадому адна. Плакала, расказваючы суседкам пра жыццё сваіх дзяцей у Амерыцы.

— Бач ты, — уздыхнула цётка Зося. — Усім здаецца, што калі дзеці ў Амерыцы, то вось як добра. Долары шлюць, і гэтак далей...

— Не кожнаму пашанцуе. Мае не шлюць долараў, ды пішуць рэдка. Усё дарагое, нават паштовыя маркі!..

— Лепш было б ім застацца ў нас, а не шукаць невядома чаго невядома дзе. Такая ж „Амерыка” і тут, — паківала галавой суседка.

**АЎРОРА**



*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

### ХЛЕБНЫ КВАС

Прадукты:

*2 кг жытняга хлеба,*
*10 літраў вады,*
*10 дэкаў дражджэй,*
*3 лыжкі мукі,*
*некалькі лыжак цукру,*
*жменя свежай ці сушанай мяты.*

Хлеб парэзаць, падпячы ў духоўцы, палажыць яго ў эмаліраваную каструльку або вядро. Загатаваць 10 літраў вады, крыху астудзіць яе (да тэмпературы 90°С). Заліць сухары вадою і паставіць на 10-12 гадзін, пасля чаго працадзіць праз сіта, на якое кладзем яшчэ марлю (хлеб не выціскаць).

Дрожджы і муку перамяшаць з жменькай хлебнай мязгі, што засталася ў сіце. Рошчыну пакінуць у цяпле, каб падрасла. Мяту заліць кіпетнем, варыць некалькі мінут, працадзіць, крыху пасаладзіць.

Падрослую рошчыну і мяту перамяшаць з хлебнай вадой, накрыць сцірачкай і пакінуць у цяпле, пакуль не паявіцца густая пена. Тады пену далікатна зняць, асцярожна зліць квас і працадзіць яго праз сіта, на якое кладзем марлю ці палатно. Разліць у бутэлькі (не надта поўна). Зачыніць коркамі бутэлькі і палажыць іх гарызантальна ў халодным пограбе ці ў халадзільніку. Праз 12 гадзін квас можна спажываць.

Замест мяты можна ўзяць 3 лыжкі свежага цертага хрэну, замест цукру — мёд.

**ГАСПАДЫНЯ**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego: 5021-24325-152-6787. Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4253. Управа гміны ў Чыжах — 2.000.000 зл.
4254. Гражына і Славамір Бароўскія (Беласток) — 50.000 зл.
4255. Зоя Смаршчок (ад беларусаў Бельгіі) — 2.000.000 зл.
4256. Юстын Пракаповіч (Беласток) — 100.000 зл.
4257. Уладзімір Ліцкевіч (Белавежа) — 100.000 зл.
4258. Валянціна Міцэвіч (Дашы) — 30.000 зл.
4259. Ніна Кананюк (Косна) — 30.000 зл.
4260. Валянціна Клімовіч (Дабрывада) — 30.000 зл.

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.




**“Niwa”**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: “ORTHDRUK”, Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1994 r. upływa 20 lutego 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką do końca br. wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł., a od 1.01.1994 r. — odpowiednio 7000 zł. i 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

— Пазыч, Ніна, грошай на хлеб, — просіць Агата.

— Што з цябе за гаспадыня? Як гэта так — на хлеб не хапае! Калі б табе не хапала да паўлітра, то пазычыла б, але на хлеб то павінна ты мець грошы!

* * *

— Што з вамі такое? Вас абакралі? Адзін бот чорны, другі — шэры? Вы іх на сметніку знайшлі, ці што? — пытаюцца ў старэчы.

— Не. Гэта я так талкова выбраўся з дому. Агледзеўся ўжо каля вакзала, ды не было ўжо часу вяртацца, цягнік адпраўляўся...

* * *

— Зоя, нашто вы ўсім сказалі, што я выходжу замуж? Я нават і не думаю цяпер ісці, у мяне ёсць час!

— Я сказала толькі, што можа будзе ў цябе вяселле, а людзі дадалі, што напэўна ўжо выходзіш.

* * *

— Мама, што мне падаруеш на Новы год? — пытае ў мамы Мірык.

— Не ведаю, што табе Дзед Мароз прынясе.

— Ты што, — яшчэ ў казкі верыш?

* * *

— Удалося табе, Генюсь, — кажа бабулька, — меў ты чатыры дочкі, а цяпер будзе сын.

— Ну, хіба я буду мець, бабко, сына ў спадніцы!

* * *

— Маркавы наракаюць.

— Чаго? То ж з Амерыкі вярнуліся? Многа долараў прывезлі?

— Не пашанцавала ім. Ледзь назбіралі на дарогу дадому. Цяпер шкадуюць, што прадалі трактар і аўтамашыну на самалёт у Нью-Йорк.

* * *

— Заўтра будзе дождж, — паведамляе кульгавы Раман.

— Што ты кажаш, сёння такое цудоўнае надвор'е?!

— Не я кажу, косці мае кажуць.

**АЎРОРА**

## СЕНТЭНЦЫІ

Гаворка без слоў і жэстаў — глуханямая.

* * *

Жыццё — гэта покер, рызыкай корміцца.

* * *

Чыстакроўнае жыццё прызначана чыстакроўным ігракам.

**БАРЫС РУС-**

# НІ.ЎКА

— Дык што вам, бабуля, адсекчы — ножкі ці галаву?

*Мал. Валерыя Зялінскага*

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(Працяг. Пачатак у н-р 40)*

## ХАТНІЯ ІСТОТЫ

### Хут

Сярод хатніх істотаў Хут вызначаецца найбольшымі памерамі, экзатычным выглядам і здольнасцю перакідацца ў некаторыя гаспадарчыя прылады. Некаторыя відавочцы сцвярджаюць, што Хут сягае ў вышыню да трох метраў, размах крылаў у дарослае істоты — да чатырох метраў. Крылы, як у кажана, скураныя, пальцы рук і ног з кіпцямі. Вядзецца пераважна на гарышчах прыватнаўласніцкіх дамоў. У адрозненні ад іншых, пераважна шкодных хатніх істотаў, Хут надзіва карысны. Асноўны занятак — шуканне скарбаў, якія пры належным доглядзе і ўтрыманні ён аддае гаспадарам. Галоўная ўмова — штовечар Хуту трэба пакідаць на гарышчы гарачую яечню са скваркамі і шклянку гарэлкі. Але калі прапусціць хоць адзін дзень, Хут жорстка адпомсціць і пяройдзе да іншага гаспадара.

Вось якая гісторыя здарылася на Рабкораўскім завулку ў горадзе Менску. „У 1942 годзе ў доме, які раней належаў вядомаму музыку, канцэртмайстру філарманічнага аркестра Моўшы Эльперу, пасяліўся Грыцко Грыненка — яфрэйтар украінскага карніцкага батальёна, папярэдне застрэліўшы гаспадара. Аднойчы пасля начных расстрэлаў новы гаспадар, выпіўшы шклянку гарэлкі, не знайшоў закускі і падняўся на гарышча, куды раней схаваў куфэрак з салам. На гарышчы Грыцко ўбачыў вялізнага кажана, які зачапіўшыся нагамі за бэльку, дасмоктваў свіную скуру. Кажан выцягнуў сваю пысу да Грыцко і, заўважыўшы, што ад таго нясе гарэлкаю, папрасіў выпіць, за што паабяцаў прынесці гаспадару скарб. З таго часу і павялося — Грыненка штовечар насіў Хуту на гарышча яечню са скваркаю і пляшку самагону, а той разлічваўся з ім залатымі манетамі, якія па адной цягаў з нумізматычнай калекцыі гаўлятэра Кубэ.

За тры дні да ўваходу ў Менск злучэнняў Чырвонае Арміі калабарант, напаіўшы Хута, папрасіў яго замест чарговай манеты прынесці даведку, што ён, Грыцко Грыненка ніякі не ўкраінец, а Герш Грынштэйн і што ён камісар яўрэйскага партызанскага атрада імя Л.М. Кагановіча. Хут выканаў ягоную просьбу. Так былы карнік стаў героемпадпольшчыкам. Сяброўства паміж Хутом і экс-украінцам працягвалася даволі доўга, але пазбавіўшыся нацыянальнасці, апошні не здолеў пазбавіцца адной з нацыянальных рысаў характару, якая пад старасць толькі ўзмацнілася. У 1959 годзе гаспадар запатрабаваў за кожную яечню прыносіць не па адной, а па дзве манеты, а то грозіўся зняць пачвару з харчавання. І аднаго дня, калі Хут прынёс з дзяржаўнага музея замест залатой манеты Жалезны крыж, Грыненка з'еў прынесеную Хуту яечню сам.

Пачвара пакрыўдзілася і ў той жа вечар знікла, але Грыцко нядоўга заставаўся ў самоце: да яго па даносе, напісаным Хутом, з'явіліся КДБісты. Падчас вобыску былі сканфіскаваныя не толькі залатыя манеты, што было б справядліва, але і багатая калекцыя зубных пратэзаў і мостаў з жоўтага металу, назбіраных у час службы ў карным батальёне.

Згодна з традцыяй, Хут спаліў дом, на гарышчы якога жыў, і перасяліўся да аднаго са следчых, які, узяўшы пад увагу здольнасці пачвары, уладкаваў яго штатным супрацоўнікам Камітэта дзяржаўнай бяспекі".

Таму, трапіўшы ў КДБ на допыт, не варта здзіўляцца, калі вам здасца, што ваш следчы — гнюсная жудасная пачвара. Паабяцайце яму яечню і шклянку гарэлкі — усё будзе добра.

Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС**
**І МАРЦІН ЮР**

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

— Пан бармен, ці я быў тут учора ноччу?

— Так.

— А ці прапіў два мільёны злотых?

— Прапіў.

— Дзякуй Богу, а то я думаў, што згубіў.

* * *

Дырэктар прымае на работу новага працаўніка. „П'яніца, жулік, гомасексуаліст" — чытае ў апініі з папярэдняга прадпрыемства.

— У нас так не будзе: п'яніц і жулікаў мы не церпім! Ну, а цяпер буська і на працу!

* * *

Сустракаюцца сябры:

— Ведаеш, снілася мне твая жонка.

— І што яна гаварыла?

— Нічога; маўчала.

— У такім выпадку гэта не была мая жонка.

* * *

Пан Кавальскі выбраўся зімою на рыбалку. Вырубаў дзірку ў лёдзе, сеў з вудачкаю і сядзіць. Падыходзіць да яго нейкі мужчына і гаворыць:

— Пане Кавальскі, тут няма рыб.

— Адкуль вы гэта ведаеце? Хто вы такі?

— Я — кіраўнік гэтага катка.

* * *

Прэзідэнт Валэнса наведаў Дом студэнта. Студэнты скардзяцца на дрэннае харчаванне.

— Падняць стаўку на 10 тысяч злотых за кожны дзень! — загадаў прэзідэнт.

У той дзень наведаў ён і турму. Астрожнікі таксама наракаюць на харчаванне.

— Падняць стаўку на 20 тысяч злотых! — загадаў прэзідэнт.

— Пан прэзідэнт, гэта памылка: трэба наадварот — гаворыць дарадчык.

— Ніякая памылка, студэнтам я ўжо не буду.

* * *

— Мамачка, наш тата яшчэ не працверазеў пасля ўчарашніх імянін!

— Чаму так думаеш, сыночак?

— Бо сядзіць на кухні і брые люстэрка.

Сабраў **АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

— А вам навошта прычэпку рабіць?

— Жыццё сабачае і цэны кусаюцца...

*Мал. Л. Гадуна*

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Усё выйшла так страшна, як бывае ў найчарнейшых снах. Ці табе такое не сніцца — што вось-вось прыйдуць госці, што трэба падрыхтавацца, і ўжо людзі пачынаюць збірацца, а тут яшчэ нічога не гатова?! Бо мне дык такое здаралася.

А тут давялося мне такое ўбачыць на яве. Праўда, здарылася гэта не са мной, а з маёй сяброўкай. Да сёння я не магу зразумець, як можна было дапусціць да такога, хаця мінула ўжо паўгода.

Ніхто да яе не прыйшоў у госці выпадкова. Усе госці былі званыя. Былі імяніны маёй сяброўкі, і яна вырашыла ў гэты дзень нешта зрабіць.

Запрасіла на 18-ую гадзіну. Ну што ж, гадзіна была добрая. Якраз пасля працы можна было крыху адпачыць і прывесці сябе ў парадак. Быў жа звычайны дзень тыдня, а сяброўка не хацела пераносіць сваіх імянін на іншы дзень. Я падумала, што ў папярэдні дзень, пэўна, давялося ёй напрацавацца. Калі запрашала, дык жа, бадай, не толькі каб пасядзець.

Што датычыцца мяне, дык хаця я і не была перагружана, усё роўна спазнілася. Была ўжо гадзіна 19-ая, калі я даволі таки нясмела пазваніла ў яе дзверы. Усю дарогу я думала, як буду яе перапрашаць за такое вялікае спазненне. Гэта ж не 15 мінут, а гадзіна!

Калі адчыніліся дзверы, я аслупянела. На парозе стаяла мая сяброўка ў халаціку, з намазанымі валасамі, на якія быў начэплены нейлонавы мяшочак (яна сама асвятляла сабе валасы). Пад носам, дзе ў яе былі нязначныя вусікі, таксама было намазана белым, тым жа, што і валасы. На, руках маёй сяброўкі я заўважыла недамытае цеста.

У першы момант я падумала, што я пераблытала гадзіны. Але, глянуўшы далей, я ўбачыла, што ўжо сабраліся ўсе, як адзін, запрошаныя госці. Я была апошняя. Прайшла я далей і ўбачыла, што мая сяброўка яшчэ толькі расціярае цеста, з якога мела пячы пірог. Усе сядзяць у пакоі, а яна аруду на кухні, у сваім халаціку і з нейлонам на галаве. А найлепшыя былі тыя вусы. Цяпер нават той, хто іх не прыкмячаў — заўважыў іх. А калі камусьці і падабаліся — дык падабацца пераcталі. У такім выглядзе яна штораз уваходзіла ў пакой і прасіла, каб госці не хваляваліся, бо яна... зараз будзе гатова.

Не ведаю, ці ўяўляла яна сабе, як адчувалі сябе ў гэты момант яе госці. Я, напрыклад, адчула сябе як інтруз, які без патрэбы нарабіў сяброўцы столькі клопатаў. „Кінь гэты пірог, — параіла я ёй. Абыдуцца без яго. Табе ж яшчэ валасы трэба мыць ды сушыць, калі ж гэта будзе?! Пакуль ты ўсё гэта паробіш, дык госці пачнуць разыходзіца..." Але яна не зважала на мае рады, бо ўперлася, што ўсё запланаванае зробіць.

Імяніны не выйшлі. Госці былі сфруcтраваныя, хаця ніхто не падаваў віду. Я пайшла дахаты даволі рана. Скажы, Сэрцайка, ці, запрашаючы гасцей, трэба мець нейкія іншыя абавязкі ў адносінах да іх? Напаіць і накарміць — гэта не ўсё, праўда?

Агата

Дарагая Агатка! Трэба ўмець прыняць гасцей і стварыць атмасферу. Што з тае цудоўнай яды і мора пітця, калі не будзе настрою! Асабліва важнае гэта ў сённяшніх часы, калі мы ў хуткім часе набліжаемся да Захаду (маю тут на думцы нашы цэны) і трэба пачынаць рабіць такія прыёмы, як у іх. На іхныя прыёмы чалавек наогул не ідзе, каб наесціся, а каб пасядзець ды пагаварыць. Хіба што была б дзеля гэтага асаблівая нагода.

Думаю аднак, што шмат часу яшчэ пройдзе, пакуль мы адвыкнем ад славянскай гасціннасці. А калі так, дык неабходна памятаць пра добрыя рады старых гаспадынь. А менавіта ўсё для гасцей павінна быць падрыхтавана раней. Да добрай гасціны пачынаюць рыхтавацца прынамсі на тыдзень перад ёю. Падрыхтоўваюць спачатку паўфабрыкаты з мяса, рыбы, селядцоў, г. зн. чысцяць, марынуюць, пасля пякуць пірагі, мяса, вараць рыбу, у апошні момант робяць салаты.

На стале ў часе, калі прыходзяць госці, можа ўжо стаяць усё падрыхтаванае, але можа быць толькі расстаўлены святочны посуд, а стравы стаяць на кухні і падаюцца толькі тады, калі прыходзяць госці.

Найлепш, калі госць прыходзіць на 10 мінут пазней, чым быў запрошаны. Тады ён можа быць упэўнены, што не застане гаспадара ў старых тапачках, а яго жонку — у халаціку.

Гаспадыня не павінна быць занадта шыкарна апранута, бо нейкая госця, якая выглядае скрамней, магла б адчуваць сябе кепска ў такой кампаніі. Гаспадыня павінна быць усюды, але як бы незаўважальная. Не яна — цэнтр увагі, а госці (нават тады, калі б былі яе імяніны).

Твая сяброўка кепска зрабіла, што не засталася пры старых валасах, ды (калі не мела часу нешта спячы) не купіла гатовага пірага. Так было б лепш. Ад нечага ў жыцці трэба адмовіцца, бо і так усяго не паспееш.

Цяпер, што б яна не рабіла і як бы не апраналася, усе, што былі ў яе ў гасцях, будуць бачыць яе ў халаціку і з нейлонавым мяшком на галаве.

**СЭРЦАЙКА**